ПРАЕКТ КАНСТЫТУЦЫІ

## НА СУД НАРОДА

У друку апублікаваны праект Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Рэспублікі Беларусь. У адрозненне ад тых, што штампаваліся пры Сталіне — Брэжневе і вызначаліся пустой дэкларатыўнасцю, у гэтым дакуменце няма прапагандысцкіх бурбалак. Нават першы радок будучай Канстытуцыі будзіць глыбокія патрыятычныя пачуцці: «Мы, народ Рэспублікі Беларусь...»

Праект Асноўнага Закона сцвярджае, што Рэспубліка Беларусь — суверэнная дзяржава, якая самастойна ажыццяўляе ўнутраную і знешнюю палітыку, прызнае чалавека вышэйшай каштоўнасцю грамадства, забяспечвае ўмовы для свабоднага развіцця асобы. Дзяржаўнай мовай рэспублікі з'яўляецца беларуская мова.

Новая Канстытуцыя ўводзіць інстытут прэзідэнцтва ў Беларусі. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, паводле яе, выбіраецца народам на тэрмін толькі 5 гадоў.

Праект Канстытуцыі вынесены на абмеркаванне грамадства. Напэўна, свае слова ў гэтай важнай справе скажуць і нашы замежныя суайчыннікі.

*«Паводле майго перакanання, да такога жыцця вялікая краіна і ўсе рэспублікі, якія ўваходзяць у яе, дайшлі ў выніку неразумнай палітыкі, праводзімай у рамках былога Саюза як цэнтрам, гак і ўтворанымі суверэннымі дзяржавамі. У выніку няздольнасці да кіравання адных і палітычных амбіцый другіх разбурана ўсё, узамен не створана нічога. Разбурана нават тое, чым, здавалася, асабліва даражылі ўсе без выключэння, — адзіная эканамічная прастора. У падпісаным ужо Дагаворы аб эканамічнай садружнасці падкрэслена, што рэформы, якія ажыццяўляюцца ў суверэнных рэспубліках, павінны насіць узгоднены характар, каб не нанесці ўрону суседзям. На практыцы ж кожная рэспубліка прымае рашэнні без уліку інтарэсаў іншых. Ніякай каардынацыі і ўзгодненасці дзеянняў няма. Цэнтр у гэтай сітуацыі дэманструе сваё бяссілле. У дзеяннях кіраўнікоў рэспублік у наяўнасці эканамічная, прававаая бязвыхаднасць, што і прывяло да абяднення ўсіх, а можа прывесці да краху. Дагавор аб эканамічнай садружнасці фактычна загублены. А калі не дзейнічае нават такое пагадненне, то нельга нават ставіць пытанне аб падпісанні палітычнага Саюзнага дагавора, паколькі палітыка, як вядома, канцэнтраванае адлюстраванне эканомікі. Таму асабіста для мяне правал ужо немагчымага парафіравання Саюзнага дагавора не стаў нечаканасцю».*

*(З інтэрв'ю Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. КЕБІЧА Беларускаму тэлеграфнаму агенцтву).*

МІЖНАРОДНЫЯ ВЫСТАЎКІ



Металарэзныя станкі, універсальныя апрацоўчыя цэнтры і тэхналагічныя модулі, гібкія аўтаматычныя лініі былі прадстаўлены на выстаўцы «Станкі Германіі-91», якая завяршылася ў Мінску ў павільёне «Мінскэкспа» прамысловай Гандлёвай палаты Рэспублікі Беларусь. Сваю прадукцыю паказалі каля дваццаці вядучых фірм Германіі. Адным з арганізатараў выступіла заходнегерманская фірма «ВЕРАКО», што спецыялізуецца на экспарце станкоў, абсталявання і мэблі. Дзякуючы яе пасрэдніцтву, беларускія прадпрыемствы змаглі заключыць узаемавыгадныя здзелкі.
НА ЗДЫМКУ: ля аднаго са стэндаў выстаўкі.

ГАЮЧЫ НАПІТАК



Выпуск напітку «Надзея», здольнага выводзіць з арганізма чалавека радыенукліды, пачаты на Магілёўскім заводзе напіткаў. Навінка распрацавана навуковымі супрацоўнікамі Інстытута радыяцыйнай біялогіі АН Рэспублікі Беларусь сумесна з тэхнолагамі ВА «Магілёўхарчпрам». У састаў напітку ўваходзяць 9 кампанентаў, якія пакуль складаюць камерцыйную тайну.
У асартыменце заводскай прадукцыі з'явіліся і два напіткі, створаныя на падставе мінеральнай вады «Магілёўская». «Беларусачка» і «Магіляўчанка» павінны спадабацца не толькі дзецям, але і дарослым, таму што разам са смакавымі яны валодаюць і гаючымі ўласцівасцямі. Доля гэтых напіткаў у агульным аб'ёме вытворчасці складае 15 працэнтаў. Завадчане лічаць, што патрэбы насельніцтва, якое пацярпела ў выніку аварыі на ЧАЭС, будуць поўнасцю задаволены.
НА ЗДЫМКУ: спадабаліся Каці МАКСІМОВІЧ новыя напіткі «Беларусачка» і «Магіляўчанка».

НОВЫ СТАТУС

## АКАДЭМІЯ МАСТАЦТВАЎ

Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, заснаваны ў Мінску яшчэ ў 1953 годзе, пераўтвораны ў Беларускую акадэмію мастацтваў. Як тлумачыць яе рэктар Васіль Шаранговіч, галоўная прычына такой трансфармацыі гэтай ВНУ — спроба стварыць у Рэспубліцы Беларусь адзіную сістэму мастацкай адукацыі. Пад дахам акадэміі неўзабаве будуць сабраны мастацкія школы, мастацкія аддзяленні ў абласных вучылішчах культуры, ліцэі. Такім чынам, акадэмія стане нацыянальным мастацкім цэнтрам.

Недзе на мяжы XX і XXI стагоддзяў Беларуская акадэмія мастацтваў атрымае свой вучэбны гарадок, а пакуль яна месціцца ў старым цесным будынку, які зусім не адпавядае яе новаму, высокаму рангу.

МІЛАСЭРНАСЦЬ

## АДВЕНТЫСТЫ БУДУЮЦЬ ЦЭНТР

Абшчына царквы адвентыстаў 7-га дня плануе стварыць у Беларусі рэабілітацыйны цэнтр. Лячэнне маркуецца праводзіць за мінімальна нізкую плату, а для людзей з малымі даходамі і інвалідаў — бясплатна.

Ініцыятарам стварэння цэнтра рэабілітацыі выступае замежнае кіраўніцтва гэтай рэлігійнай арганізацыі, а універсітэт Ламалінда (ЗША) запрашае ўрачоў з Беларусі да сябе на стажыроўку.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● Па прагнозах спецыялістаў, у Беларусі 1995 года 10 тысяч чалавек могуць захварэць на СНІД (AIDS). Найбольш пацерпіць маладое працаздольнае насельніцтва рэспублікі.

● Капітан дальняга плавання, кандыдат юрыдычных навук М. Саўчанка распрацаваў свой праект стварэння беларускага марскога флоту. Паводле яго прапанову, у Беларусі, нягледзячы на яе ўнутрыкантынентальнае становішча, павінна быць міністэрства марскога флоту. Мы маем унікальную магчымасць зарабляць валюту.

● У цэнтры Слоніма, на месцы Праабражэнскага сабора, пашкоджанага вайной і канчаткова разбуранага ў савецкі час, пастаўлены сямімятровы крыж.

● Епіскапу Брэсцкаму і Кобрынскаму Канстанціну споўнілася 80 гадоў. З гэтай нагоды ў Свята-Сімяонаўскім саборы адбылося набажэнства, мітрапаліт Філарэт уручыў юбіляру ордэн Святога князя Данііла другой ступені.

З ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ Ў МЗС

# ПРАБІЦЦА, КАБ ПАЧУЛІ

Прэс-канферэнцыя міністра замежных спраў рэспублікі Беларусь Пятра Краўчанкі, што адбылася 4 снежня, была прысвечана вынікам работы беларускай дэлегацыі на 46-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у Нью-Йорку. Прыгадваючы такія сустрэчы з журналістамі папярэднікаў цяперашняга міністра, мімволі адчуваеш, што ў нас такі з'явілася сваё, беларускае Міністэрства замежных спраў. Раней, у часы застою, толькі і чуеш, як беларуская дэлегацыя актыўна падтрымлівала ўсе ініцыятывы Савецкага Саюза, карацей кажучы, была на паслугах «старэйшага брата». Сёння іншыя прыярытэты ў нашага МЗС, іншыя акцэнты ў нашай, менавіта **нашай** нацыянальнай палітыцы. А таму і рэляцыі з сёлетняй сесіі Генеральнай Асамблеі ААН былі іншымі.

Як заявіў міністр, сёлета не было «дзяжурных» выступленняў, кожны з нашых дыпламатаў (а выступалі яны ва ўсіх камітэтах ААН) узнімаў пэўную, канкрэтную праблему. Уся дзейнасць дэлегацыі грунтавалася на тым, што Рэспубліка Беларусь паступова, але няўхільна рухаецца да рэальнай незалежнасці.

— Пытанне дзяржаўнай незалежнасці мы разглядаем як працэс, — такі пункт гледжання П. Краўчанкі. — Нельга ў адзін момант абвясціць незалежнасць і стаць незалежнымі. Трэба весці вельмі актыўную барацьбу за міжнароднае прызнанне.

Беларуская дэлегацыя ў ААН дамагалася, што нас як незалежную дзяржаву пачынае заўважаць сусветнае супольніцтва. Пра гэта сведчаць сустрэчы П. Краўчанкі з дзяржсакратаром ЗША Дж. Бейкерам, з міністрам замежных спраў Германіі Г.-Д. Геншэрам, з міністрамі замежных спраў былых краін сацыялістычнай садружнасці і іншых дзяржаў.

Самай складанай, на думку міністра, была сустрэча з Дж. Бейкерам, дзе мы дабіліся фактычных адносін са Злучанымі Штатамі Амерыкі. Цяпер нашы кантакты будуць развівацца ў трох сферах: перманентныя сустрэчы і перагаворы экспертаў, якія ўжо фактычна пачаліся ў верасні і будуць працягвацца; перыядычныя сустрэчы кіраўнікоў знешнепалітычных ведамстваў дзвюх дзяржаў, прынамсі, ёсць дамоўленасць, што сустрэчы П. Краўчанкі з Дж. Бейкерам будуць адбывацца не радзей 1—2 разоў у год; сустрэчы і перагаворы на самым высокім палітычным узроўні — кіраўнікоў дзяржаў і кіраўнікоў урадаў. Мяркуецца, што на пачатку 1992 года адзін з кіраўнікоў Рэспублікі Беларусь будзе прыняты прэзідэнтам ЗША Дж. Бушам.

Нельга абысці і той факт, што на савецка-амерыканскіх перагаворах Беларусь ужо выступае ў якасці назіральніка.

У час сустрэч з міністрам замежных спраў Германіі Г.-Д. Геншэрам мы дамагліся згоды на тое, каб у адказ на наш дазвол адкрыць у Мінску консульства Федэратыўнай Рэспублікі Германіі ў Беларусі адкрыць консульства Рэспублікі Беларусь у Германіі ў Боне ці Берліне, а гэта ўжо першы крок да дыпламатычнага прызнання.

Дасягнута дамоўленасць з міністрамі замежных спраў Польшчы, Балгарыі, Румыніі, Венгрыі, Чэха-Славакіі аб тым, што ў найбліжэйшы час будуць распрацаваны консульскія канвенцыі. А гэта азначае таксама, што мы пачынаем працэс узаемнага міжнароднага прызнання адзін аднаго. За консульскімі канвенцыямі — абмен консульствамі.

Напэўна, умацаванню нашага суверэнітэту паслужыць і тое, што Беларусь пасля вельмі напружанага дыпламатычнага змагання змагла прабіцца ў кіруючыя органы ЭКОСОС — спецыяльны орган ААН па сацыяльных і эканамічных пытаннях. Для Беларусі, якая набыла сваю незалежнасць, гэта вельмі важна: цяпер яна мае права рашаючага голасу ў гэтым уплывовым органе міжнароднага супольніцтва.

Бадай, найвялікшае месца ў выступленні П. Краўчанкі на прэс-канферэнцыі занялі чарнобыльскія праблемы. Адна з самых важных спраў, якую зрабіла наша дэлегацыя на 46-й сесіі, — не дала звесці на нішто ў сценах ААН чарнобыльскую тэматыку. А ёсць краіны, якія зацікаўлены, каб праблемы чарнобыльскай катастрофы абмяркоўваліся, прынамсі, не часцей, чым раз на 2 гады. Беларускія дыпламаты зрабілі ўсё, каб такія прапановы не прайшлі. Наша рэспубліка, абкружаная з усіх бакоў атамнымі электрастанцыямі — Чарнобыльская АЭС, Ігналінская АЭС, Смаленская АЭС, — будзе прымаць актыўны ўдзел у абмеркаванні праблем бяспекі існуючых ядзерных электрастанцый.

У час сустрэчы П. Краўчанкі з Дж. Бейкерам удалося дамовіцца аб дапамозе нам з боку ЗША ў ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы на дзяржаўным узроўні. Амерыканская адміністрацыя падрыхтуе спецыяльны транспартны самалёт з вялікай колькасцю лекаў. Яны будуць накіраваны ад імя ўрада ЗША беларускаму народу.

Міністр звярнуў увагу на тое, якую вялікую ролю ў дапамозе Беларусі адыгрываюць дабрачынныя арганізацыі Амерыкі, а таксама нашы суайчыннікі. Асаблівай падзякі заслугоўвае дзейнасць прапаведніка Пола Мора і яго жонкі Шарон, якія ўзначальваюць дабрачыннае таварыства «Сіці хоуп». Яны за 2 тыдні сабралі 150 тон лекаў на суму 1,5 мільёна долараў. Першая іх партыя ўжо дастаўлена ў Беларусь, а да пачатку студзеня мы будзем мець яшчэ 300 тон, калі не болей.

Спагадлівых людзей у Амерыцы многа. І сярод іх Марыя Дзямковіч, беларуска родам з Моталя. Цяпер яна жыве ў Пітсбургу, па прафесіі дзіцячы ўрач. Яна зрабіла многа, каб дапамагчы навязаць кантакты нашаму Інстытуту радыяцыйнай медыцыны з Пітсбургскім універсітэтам. Хутка будзе падпісаны мемарандум аб супрацоўніцтве і дапамозе Беларусі ў барацьбе за выжыванне пасля Чарнобыля.

Свет не без добрых людзей.

В. КРАСЛАЎСКІ.

## ПАМІЖ ПОЛЬШЧАЙ І РАСІЯЙ

# РЫЖСКІ ГЕШЭФТ

На другім пасяджэнні, якое адкрылася ў 2 гадзіны наступнага дня, былі агалошаны «Асноўныя палажэнні дагавору аб перамір'і і прэлімінарных умовах міру». Той жа Данішэўскі нагадаў аб абавязку ўласнай дэлегацыі перад «насельніцтвам разбураных абласцей Украіны, Беларусі і прочых абласцей», што былі пад акупацыяй польскіх войскаў... і запатрабаваў кампенсацыі для іх. Але ў саміх «палажэннях»... Беларусь як нейкі прававы суб'ект не згадваецца. Толькі ў пункце трэцім зноў ідзе гаворка пра яе землі — «канчатковая мяжа Польскай рэспублікі» ў асноўным супадае з лініяй, памечанай у ноце лорда Керзана,.. з адхіленнем на карысць Польскай рэспублікі на ўсход у раёне Беластока і Хелма».

На наступным пасяджэнні, калі Польшча ўзняла пытанне аб Літве і Беларусі, той жа Данішэўскі адзначыў, што ўсе народы маюць права на самавызначэнне, а незалежнасць Літвы і Беларусі, падкрэсліў ён, «была прызнана РСФСР яшчэ ў 1918 годзе». На звінавачанне з боку польскай дэлегацыі аб стварэнні Часовага Польскага ўрада, дык яно, па словах кіраўніка бальшавіцкай дэлегацыі, «узнікла на тэрыторыі Польшчы жаданнем саміх працоўных масаў...» Так гаварыў паўнамоцны прадстаўнік Расейска-Украінскай дэлегацыі на пасяджэнні 24 жніўня 1920 года, а двума тыднямі раней Дзям'ян Бедны, «выдаючы» стратэгію і тактыку бальшавікоў, пісаў:

**...Смилга приехал в качестве**
**члена Реввоенсовета**
**Я — в качестве поэта...**
**...Оба едем через Вильно**
**в Гродно**
**Из Гродно в Белосток**
**В Белостоке дадим свисток**
**И вслед за красными польскими**
**повстанцами**
**(Мы при них, так сказать,**
**«дружественными**
**иностранцами»)**
**Приедем в Варшаву**
**по «Краковскому пшедместью»**
**Поедем в театр или какое там**
**помещение**
**Где состоится взаимное**
**угощение:**
**Нам закатят речей двадцать**
**приветственных**
**Да мы закатим речей двадцать**
**соответственных.**
**Измотаем речами себя и**
**публику**
**за сим**
**провозгласим —**
**Польскую Социалистическую**
**Республику!**

Не будзем прыводзіць далейшыя радкі гэтага «верша», аднак адзначым, што наступныя этапы-прыпынкі — гэты «рупар бальшавізму» бачыць у Нарвегіі, Лондане ці Парыжы, Ірландыі, Даніі і г. д. Ды цягнік рэвалюцыі, на шчасце, да апошніх не «дацягнуў». Але ў Беластоку «даў свісток»...

Яшчэ 2 жніўня 1920 года ў гонар Часовага Рэўкома Польшчы ў Беларусі адбыўся мітынг у Беластоку. На ім ад імя рэўкома выступіў старшыня Ю. Мархлеўскі, ад УЦВК — Палуян, ад іншых расейскіх устаноў — Скварцоў - Сцяпанаў, Тухачэўскі... Варшава была так блізка...

11 жніўня гэты ж Часовы Рэўком аддае загад... войскам Пілсудскага ва ўсіх часцях абраць Саветы салдацкіх дэпутатаў. Мы не маем звестак, як быў выкананы гэты загад, але, мяркуючы па выніках, ці быў ён прыняты да ўвагі?

Але, як ужо пісалася, з 16 жніўня пачаўся не менш імклівы адкат савецкіх войск, а 17 пачаліся папярэднія перагаворы, якія зайшлі ў тупік праз дзесяць дзён. Бальшавікі гулялі «ў права нацый на самавызначэнне, а палякі нацыскалі на «гістарычныя правы», падмяняючы паняцце — Рэч Паспалітая XVIII стагоддзя, і адраджэнне Польшчы ў XX стагоддзі.

У ноч з 26 на 27 жніўня на экстранным пасяджэнні прэзідыума Мірнай канферэнцыі старшыня польскай дэлегацыі Я. Домбскі заявіў, што мусіць ехаць на нараду з міністрам замежных спраў Сапегам у Брэст-Літоўск. Старшыня савецкай дэлегацыі вечарам таго ж дня паехаў кансультавацца ў Маскву. Наўздагон Домбскаму паляцела тэлеграма наркома знешніх спраў РСФСР аб тым, што знаходжанне польскай дэлегацыі ў Менску служыць зацягванню перамоў, і было прапанавана перанесці іх у Эстонію. На што быў атрыманы адказ Сапегі з контрпрапановай аб пераносе далейшых дэбатаў у Рыгу.

Апошняе, пятае, пасяджэнне ў Менску адбылося 2 верасня ў 16.30. На ім было канстатавана, што прыпынку ў перагаворах няма, ёсць толькі перанясенне іх на нейтральную тэрыторыю, і, абмяняўшыся рэверансамі, дэлегаты раз'ехаліся. Апошняе пасяджэнне мірнай канферэнцыі мінскага перыяду было закрыта.

Перамовы перамовамі, але кожны з ваюючых бакоў імкнуўся сесці за стол з найбольшымі ваенна-стратэгічнымі здабыткамі. Чырвоная Армія, якая замацавалася на пачатак кастрычніка 1920 года на лініі Нарач—Койданава — Слуцк — Князь-Возера, зноў была адкінута, і 15 кастрычніка польскія войскі ўвайшлі ў Менск. Парабаваўшы горад пры набліжэнні бальшавіцкай 27 стралковай дывізіі, яны пакінулі яго. Вераснёўска-кастрычніцкі наступ палякаў бальшавікі здолелі спыніць з вялікімі цяжкасцямі. Каб паддаць баявога духу Чырвонай Арміі і апраўдаць у вачах беларускай грамадскасці здрадніцка-захопніцкую палітыку, у Менск прыбыў Л. Троцкі. Галоўнай мэтай візіту наркома ўзброеных сіл было «прамыванне мазгоў» адказным работнікам з аднačасовым апраўданнем, з пункту гледжання сусветнай рэвалюцыі, неабходнасці ахвяравання Беларуссю. Гэтая падвойная задача вельмі добра прасочваецца ў загадах і выступленнях «перманентнага рэвалюцыянера».

На нарадзе 9 верасня, прыехаўшы на Заходні фронт, Троцкі вельмі доўга і падрабязна спыняецца на... Врангелеўскім фронце ў Крыме (!), малюе міжнароднае становішча і вельмі сціпла гаворыць аб савецка-польскім фронце, абмежаваўшы сваё выступленне агульнымі разважаннямі. У канцы прамоўца сфармуляваў некалькі пытанняў аб становішчы на месцы, але ніякіх прапаноў для вырашэння іх не даў.

Больш поўна галоўная мэта візіту (падрыхтаваць грамадскую думку да здачы на карысць Польшчы значнай часткі Беларусі) праяўляецца ў ягоным выступленні на нарадзе ў гарадскім тэатры наступным днём. Выдаючы яўнае паражэнне за перамогу, Троцкі гаварыў: «Быў час, не варта скрываць, мы думалі перавесці штаб Заходняга фронта са Смаленска ў Цвер. Зараз ён знаходзіцца ў Менску... на 400 вёрстаў далей ад Смаленска, на 400 вёрстаў бліжэй да Варшавы...» Быццам бы ад гэтага Беларусі стала лягчэй!

Анатоль ЦІТОЎ.

(Працяг. Пачатак у № 49).

Здавалася б, пасля прыняцця Закона аб мясцовым самакіраванні сяляне павінны ўздыхнуць з палёгкай. Але вось бяда: закон ёсць, а паўнамоцтваў у сельскага Савета як не было, так і няма. Так лічаць дэпутаты Ждановіцкага сельсавета, што на Міншчыне. Сапраўды мізэрны гадавы бюджэт, залежнасць ад райвыканкома звязваюць ініцыятыву народных абраннікаў. Напрыклад, Савет не можа самастойна браць плату за зямлю. Ды і свайго бюджэту ў яго няма. А вось жадаючых атрымаць зямельны ўчастак на тэрыторыі раёна аказалася больш, чым зямлі. Даводзіцца дэпутатам займацца і разборам скаргаў, і вырашэннем жыллёвых праблем, і пытаннямі сацзабеспячэння, народнай адукацыі і многімі іншымі справамі. Не менш двухсот жыхароў вёсак, пасёлкаў раёна, на тэрыторыі якога пражывае 16 тысяч чалавек, штодзённа звяртаюцца ў Савет.



НА ЗДЫМКУ: адзін з трыццаці народных дэпутатаў Ждановіцкага сельскага Савета дырэктар Ратамскай сярэдняй школы Васіль МАРШЧОНАК (у цэнтры) са сваімі выбаршчыкамі.

Фота І. ЮДАША.

# ШТО ДАПАМОЖА НАМ СТАЦЬ ШЧАСЛІВЫМІ?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

падумаць: а чаму? Магчыма, каб быў я здаровым, я тварыў бы страшныя беззаконні, а пакуль я хворы, гэта мяне стрымлівае. Тое ж і з дабрабытам. Жыў чалавек, накопліваў, ураз усё згарэла. Што рабіць? Веруючы чалавек перахрысціцца і падумае, што Бог тым самым збярог яго ад многіх спакус, я не так распараджаўся тым, што мне было дадзена. Навучыцца такім адносінам да жыцця нялёгка, але нішто іншае не дапаможа нам стаць шчаслівымі.

*— Людзі павярнуліся тварам да царквы. А ці гатова да такога павароту сама царква?*

— Тут пытанне не ў тым, ці гатова царква, а ў тым, што нас паставілі ва ўмовы, калі мы не заўсёды можам добра выконваць свае функцыі. Вы ж самі сёння бачылі, як праходзіла вянчанне — становішча зусім ненармальнае, таму што вянчанняў вялікая колькасць, і гэта колькасць у якасць, на жаль, не пераходзіць. Вось вам вынікі апошняга сацыялагічнага даследавання: з 76 працэнтаў людзей, якія, паводле іх слоў, маюць схільнасць да рэлігіі, 65 працэнтаў праваслаўныя, 10 — каталікі, 1 працэнт— іншых веравызнанняў. Дык вось, 10 працэнтаў каталікаў маюць ужо 4 касцёлы, а 65 працэнтаў праваслаўных — пакуль толькі 3 царквы. Нядаўна ў нас прайшло свята памінання памершых Дзяды. Было ўсё гэта, паверце, жахліва, таму што людзі не змяшчаліся ў храме і, нягледзячы на тое, што было вельмі холадна, стаялі на двары. Усё гэта цяжка. На такі горад, як наш, па самых сціплых падліках, трэба яшчэ дзесятак храмаў. Усё-такі, што б там ні гаварылі, беларусы — праваслаўныя, і калі нараджаецца дзіця і яго трэба ахрысціць, беларусы, рускія, украінцы ідуць у праваслаўную царкву. Палякі і вялікая частка заходніх беларусаў ідуць, вядома, у касцёл. Было многа шуму вакол уніяцкай царквы. Цяпер такія размовы ідуць на спад. Былі і публікацыі на гэтую тэму. Але мы маўчалі і ў спрэчкі такія не ўвязваліся. Мне здаецца, што аб прыхільнасці беларусаў да уніяцкай царквы проста крычала некалькі чалавек, голасам народа назваць гэта цяжка. Што выбірае народ, мы бачым лепш, чым хто іншы. Паглядзіце самі, колькі людзей вянчаецца і хрысціцца, колькі прыходзіць споведзь. Думаю, у гэтым ёсць адказ на пытанне.

*— Раскажыце, калі ласка, больш падрабязна аб будучым храме — помніку ў гонар іконы Божае Маці «Усіх Тужлівых Радасці», настаяцелем якога вы з'яўляецеся.*

— Ён узводзіцца ў памяць аб усіх пацярпеўшых і пакутуючых ад чарнобыльскай катастрофы, тут штодзённа будуць узносіцца малітвы аб іх. Аднавілася старадаўняя традыцыя адзначаць жалобныя падзеі ў жыцці дзяржавы будаўніцтвам храмаў. Дарэчы, саму ікону Божай Маці «Усіх Тужлівых Радасці» ўдалося выратаваць на Брэсцкай таможні пры спробе вывезці яе за межы нашай краіны. Да гэтай іконы заўсёды звярталіся інваліды, сляпыя, глухія, не толькі фізічна, але і духоўна надломленыя людзі. У будаўніцтве нашага храма таксама акажуць пасільную дапамогу беларускія таварыствы сляпых, інвалідаў, самі чарнобыльскія ліквідатары. Будуць прадугледжаны спецыяльныя пад'ёмнікі і пандусы для інвалідных калясак, спецыяльныя месцы для сляпых, перакладчык для глухіх. У будаўнічы комплекс увойдуць музей чарнобыльскай катастрофы, мемарыяльны комплекс-цвінтар, дзе будуць увекавечаны назвы ўсіх беларускіх вёсак і гарадоў, якія аказаліся ў мёртвай радыеактыўнай зоне, прыватная агульнаадукацыйная школа. Хацелася б зрабіць і бібліятэку, музей, экспазіцыя якога ўжо ёсць, багадзельню для абяздоленых, невялікі дыягнастычны цэнтр для ліквідатараў, дабрачынную сталовую. Ужо цяпер там працуе нядзельная школа і іканапісны клас. У абліччы гэтага будуемага храма-помніка адраджаюцца характэрныя рысы беларускага праваслаўнага дойлідства, развіццё якога было гістарычна спынена. Храм будзе ўяўляць сабой пяцікупальны чатырохслупны аб'ём з характэрнымі для Беларусі купаламі шлемападобнай формы і дэкаратыўнай керамікай, што традыцыйна выкарыстоўваецца для аздаблення фасадаў. На закладцы памятнага каменя прысутнічалі прадстаўнікі зарубежных консульстваў, прадстаўнікі замежных хрысціянскіх цэркваў. Гучалі словы Чарнобыльскай малітвы:

«Господи Иисусе Христе, Боже наш!

...Огради, Господи, грядущие поколения от тяжких болезней и уродств, защити младенцев во чреве материнском сущих. Всем же неисцелимо больным, в тоске смертной отходящим из мира сего, — прощение и оставление грехов и прегрешений даруй и Ангелов твоих посли, приемлющих души их.

Очисти, Господи, десницею Твоею землю, воздух и воды от губительных последствий случившейся беды...»

Вядома ж, будаўніцтва такога храма — справа няхуткая, але мы верым у тое, што ён будзе пабудаваны і ўзнясуцца ў неба Беларусі купалы ў памяць пра бяду нашу і ў надзеі на вечную міласць Божую.

Гутарку вяла
Вераніка ЧАРКАСАВА.

**Ганарар за артыкул аўтар просіць перавесці на будаўніцтва храма ў памяць ахвяр чарнобыльскай катастрофы.**

**26 красавіка 1991 года ў горадзе Мінску мітрапалітам Мінскім і Гродзенскім Філарэтам заснаваны храм у памяць ахвяр чарнобыльскай катастрофы, ушанавання іконы Божай Маці «Усіх Тужлівых Радасці».**

**Міласць Божая ды будзе са сваімі заснавальнікамі, ахвяравальнікамі, дабрачыннікамі і працаўнікамі, хто працуе для стварэння храма, у якім будуць няспынна ўзносіцца малітвы аб усіх загінуўшых і пакутуючых ахвярах ядзернай катастрофы, у якім увекавечыцца памяць пра бязлюдныя, зажыва пахаваныя вёскі, у якім да сканчэння стагоддзя гэтага ў кнігах ахвяравальнікаў будуць захаваны імёны тых, хто садзейнічаў адраджэнню храма.**

**«Блаженны милостиви, яко тни помилованн будут... Радуйтеся и веселитеся яко мзда ваша много на небесах»,— сказаў Бог наш Ісус Хрыстос.**

**Ад імя прыхаджан і жыхароў шматпакутнай зямлі нашай, якія жадаюць хутчэйшага будаўніцтва гэтага Дома Божага, заклікаю вас ахвяраваць па сілах і магчымасцях вашых на будаўніцтва ў сталіцы Беларусі храма-помніка ўшанавання іконы Божай Маці «Усіх Тужлівых Радасці» і ў памяць ахвяр чарнобыльскага бедства.**

Наш разліковы рахунак 700724, код 811 у Беларускім прамыслова-інавацыйным банку.

Карэспандэнцкі рахунак БПІБ «Прыорбанк» у МБЭС 090103501 на будаўніцтва храма ўшанавання іконы Божай Маці «Усіх Тужлівых Радасці» ў памяць ахвяр Чарнобыля.

**Настаяцель храма ўшанавання іконы Божай Маці «Усіх Тужлівых Радасці»**
**айцец Ігар КАРАСЦЯЛЁЎ.**




217

А трэба было лепш адчыніць гурток беларусазнаўства, бо прыкмячаеце, грамадзянін Дзягцяр, што ў нашых студэнтаў штодзённай мовай робіцца расейская й усё больш і больш расчароўваюцца вашым палітыканствам, адсюль беларускай справай. Агулам я скажу: кожны імкнецца да таго, каб правесьці толькі свае асабістыя перакананьні ў жыцьцё й ня думае зусім аб цэлым.

— Добра, — адказаў у зьдзіўленьні Дзягцяр. Ён не чакаў, што Тугоўскі ўступіць з ім у сур'ёзныя спрэчкі. — Добра "цэлае"! Разьбяром, што ж гэта ёсьць цэлае і ёсьць камуністы...

— Грамадзянін Дзягцяр! — паклікалі яго ў гэты час сябры марксысты на нейкую нараду, і ён пакінуў аднаго Тугоўскага сярод залі.

Тугоўскі стаяў і пільна глядзеў усьлед гэтым маладым сілам, растучым дзеля таго, каб нішчыць сучасны лад. У іх было шмат нагласьці, яны былі простыя, як сама вёска, яны былі дрэнна памыты, дрэнна прычэсаны й дрэнна апрануты, і ўсё ж ткі ім не было як адмовіць у здольнасьці і працавітасьці ў дасягненьні сваёй мэты. Ім ня можна было не спачуваць у іх імкненьні да лепшай будучыні, да сьветлых ідэалаў, за палепшаньне жыцьця галодных мас — няхай хоць на паперы, а не ў жыцьці. Але ім ня можна было спачуваць за іх нагласьць, грубасьць, за тое, што ў іх усё было спрошчана, аголена, абарвана. Яны здаваліся Тугоўскаму тым, чым быў ён сам, пакуль ня стаў чэскім работнікам, пакуль ня выпіў да дна горкую чарку пакуты. Ім, гэтым камсамольцам, трэба было-б спачатку працярпець і тады зразумець, што шлях да вызваленьня чалавека ляжыць праз яго духоўнае ўдасканаленьне. Ім трэба было-б

218

самім спачатку вырасьці культурна да буржуазіі, каб потым быць яе ўласным аружжам. Нішчыць і ламаць — вельмі лёгкая штука. Але каб што-небудзь стварыць — трэба культурна. Цяпер гэта зразумеў Тугоўскі... Цяпер ён гатоў быў гутарыць аб гэтым з усімі і кожным.

Пакуль ён стаяў сярод Студэнцкага дому й думаў, да яго падыйшоў, усьміхаючыся як заўсёды, Малевіч й пачаў на чысьцейшай расейскай мове.

— Ты што? — запытаў Тугоўскі, — ужо забыўся гутарыць па-беларуску?

— Які патрыёт! Ха-ха! — засьмяяўся Малевіч. — Усе вы, патрыёты, пасьля свайго палітыканства канчаеце там, дзе пачнеце. "Гутарыць па-расейску"... — й ён, сьмеючыся, адыйшоў ад пабляднеўшага Тугоўскага.

"Якая бэстыя, — падумаў, застаўшыся, Тугоўскі. — Ён яшчэ мае беларускую стыпэндыю. Вось да чаго даводзяць спрэчкі сярод беларусаў. Вось рэзультат гэтай праклятай хваробы — "дыфэрэнцыяцыі". Што было брудна й маўчала, цяпер як... ўсплыло на паверхню". З цяжкім сэрцам ён выйшаў з Студэнцкага дому, рашыўшы прыхадзіць сюды як мага радзей. Ён рашыў быць далей ад гэтых спрэчак і палітычнай валтузьні, каб мець сьвежую галаву й з усіх сілаў аддацца навуцы. І ўсё ж ткі думаў аб прыгожым вобразе тых, якія загінулі на Бацькаўшчыне, усім сэрцам спачуваючы іх геройству.

**V**

Тугоўскі не шкадуючы сябе займаўся падрых-

219

тоўкай да экзаменаў. Ён штодня сядзеў у садзе інтэрнату за якім-небудзь прадметам і так зацікаўліваўся ім, што большай часткаю запамятаваў аб палуднях. У садзе інтэрнату не было прыгожа: у адведзеным студэнтам раёне і агароджаным дротам дарога была пакрыта дробным камнем, і толькі высокія ліпы давалі хараство й зелень. Сам сад пачынаўся за дротам, там прыгажэлі кусты ружаў, прыгожыя клюмбы, там цьвілі яблыні. Там за дротам была запраўдная прырода. Там у гарачыя летнія дні можна было лёгка схавацца дзе-небудзь пад ліпай. Навокал саду хадзілі сьляпцы, часам падходзіўшыя да дроту й губляўшыя арыентацыю, пужаўшыяся й блудзіўшыя, каб выйсьці на дарогу. Від гэтых няшчасных людзей заўсёды прымушаў Тугоўскага адварочвацца ад іх й пільней працаваць.

У адзін прыгожы летні дзень, калі так голасна чырыкалі птушкі на ліпах й так звонка зьвінелі цьвіркуны ў густой траве, вельмі лёгка йшла праца над самым цяжкім спэцыяльным прадметам. Ён лёгка выводзіў ўсе матэматычныя формулы, лёгка разумеў канструкцыі розных інструментаў і так задаволена самім сабой пералістываў старонку за старонкай падручніка, што не заўважыў, як прасядзеў да поўдня. Раптам яго нешта кальнула ў левую палову грудзей настолькі моцна, што ён ледзь ня крыкнуў ад болі. Ён крыху расшпіліў касьцюм і пабялеў ад жаху: усе грудзі яго былі пакрыты велізарнымі ружовымі й чырвонымі плямамі. Што гэта магло быць? Безумоўна, быў гэта сыфіліс у другой стадыі. Ён успомніў, як ён бачыў у кіно такое самае здарэньне з аднэй дзяўчынай, успомніў, як ён бачыў у кніжцы аб гэтых хваробах фатаграфію ўва ўвесь рост юнака, пакрытага з ног

220

да галавы жахлівымі й страшнымі плямамі. І яму сталась ясна, што той вясёлы старык-лекар, які так пацешыў яго, аднёсся да яго вельмі лёгкаважна й не зразумеў самой хваробы. Цяпер ён павінен будзе расплаціцца за яго дыягназ сваім жыцьцём. Як жахліва! Другая стадыя ня так лёгка паддаецца лячэньню, й можна думаць, што чалавек пачне адразу жыць і разваліваецца, або яго навекі загубяць кожныя націраньні жывым серабром. Ён загінуў, цяпер ён назаўсёды загінуў. Яго кінула ў студзёны пот. Каму прызнацца ў тым, што ён нажыў сабе хваробу толькі дзеля распусты, толькі дзеля свайго няўменьня жыць? У яго пачыналі дрыжэць рукі й ногі. Ён схапіў тоўсты падручнік, ускочыў у інтэрнат і, дзівуючы ўсіх, як непрытомны, з голай галавой паляцеў у Прагу шукаць добрага доктара. На жаль, усе доктары прыймалі цяпер толькі з паўдня, бо ранячны прыём быў прапушчаны — й самым раньнім быў прыём у дзьве гадзіны. Ён чуў, як жахліва часаліся яму грудзі, на тым месьце маляваў сабе жахлівыя раны, прагрызеныя бацыламі. Нарэшце ён дачакаўся жаданай хвіліны, з замёршым сэрцам увайшоў да доктара. Малады асыстэнт знамянітага доктара акінуў яго пільным поглядам і папрасіў прысесьці. Відацца было, што ён быў рады прыходу Тугоўскага, бо пацыентаў у яго прыёмнай не было, і ён, напэўна, быў-бы рады, каб у Тугоўскага была хвароба.

— Скажыце, доктар, — пачаў Тугоўскі трывожна, — як зьяўляецца другая стадыя сыфілісу?

— Другая стадыя? Зьяўляюцца цёмныя каштанавыя плямы па баках, пад мышкамі й на руках.

— А вось скажыце, што гэта за хвароба? — Ён распахнуў свае грудзі й сам з цікавасьцей пагля-

221

даў на іх. Ён думаў: можа, на яго шчасьце, плямы ўжо прапалі. Але плямы, ружовыя і чырвоныя, красаваліся на грудзёх, толькі ў меншым ліку і менш яскрава.

— Вось гэта? — зьдзівіўся доктар й пачаў пільна разглядаць плямы. Тугоўскі стаяў ні жывы, ні мёртвы, чакаючы, як засуджаны на сьмерць, свайго прыгавора.

— Ну, гэта ня сыфіліс... Гэта проста так плямы, нічога небясьпечнага ня маючыя.

— Ад чаго яны зьяўляюцца? Яны сьвярбяць мне.

— Гэта ведаеце ад чаго? Ад нэрваў. Вы студэнт? Так. Ну дык вось, колькі мне ні прыхадзілася бачыць, дык у гэтых эмігрантаў-студэнтаў страшэнна расшатаныя нэрвы. Хочаце, вам нараблю гэтых плям па ўсяму целу. — Ён пачаў рукой рабіць плямы, й яны, запраўды, былі вельмі падобныя да толькі што высыпаўшых. — Я вам магу напісаць цэлае прозьвішча, — сказаў доктар і запраўды нешта напісаў нагцём на скуры. — Гэта ня сыфіліс. І чаму вам улезла ў галаву, што ў вас можа быць другая стадыя? А першая стадыя ў вас была? У вас быў які-небудзь нарыў, які-небудзь прышч?

— Здаецца, нічога не было. Я быў у лекара, але ён нічога тады ні не знайшоў. Аднак у мяне пэўнасьці няма.

— Ну давайце паглядзім. — Ён пільна агледзеў Тугоўскага, потым нешта распаліў на спіртоўцы, дастаў нейкую іголку й прамовіўшы: "Толькі не пужайцеся", падыйшоў і ўзяў на канец іголкі крыху эпітэлію. Потым доўга разглядаў гэтую пробу пад мікраскопам. — Па-мойму, у вас нічога няма, — сказаў ён сумна, быццам не задаволены тым, што нічога не знайшоў. Але неасьцярожна кінутае слова "па-мойму" зноў запоўніла Тугоўскага тугой. "Па-

222

мойму" — сьведчыць аб недасканальным досьледзе гэтага маладога доктара, а запраўды можа быць у яго жахлівыя бацылы. Дзе ж тады аб'ектыўная пэўнасьць?

— А ўсё ж ткі баюся, доктар, — сумна-сумна ўсьміхнуўся Тугоўскі. — Можа быць я нашу ў сабе бацылы, толькі іх не ўдаецца знайсьці?

— Ну вы дарэмна так думаеце. Але калі вы так думаеце — можна зрабіць вам Васэрманавы аналіз крыві.

— Во, калі ласка, — радасна ўчапіўся за гэтую думку Тугоўскі.

Доктар паклаў яго на апэрацыйны стол, перавязаў руку вышэй локця, нацёр добра ватай з эфірам і потым усунуў у жылу іголку, падставіўшы пад яе прабірку. Чорная густая кроў плыла дарагімі кроплямі. Доктар нарэшце заляпіў рану плястырам і ўзяў прабірку. Усё было скончана.

— Праз чатыры дні будзе гатова, — сказаў доктар і наляпіў яго прозьвішча на прабірку.

Тугоўскі выйшаў ад доктара няпэўны. З аднаго боку, здавалася б, не павінна было быць трывогі, але з другога боку, ён быў няпэўны. Чатыры дні яшчэ трэба было чакаць, каб ведаць свой лёс. Хто ведае, чым можа скончыцца ўся гэта гісторыя. І чаму ён ішоў за шукаўшай яго паненкай у рэстаран? Як дзіка, як жахліва... Згубіў сваю нявіннасьць і навекі згубіў сваё здароўе. Як трагічна... Загінуў не ўва імя вялікіх ідэй, дзе-небудзь у

223

турме, у барацьбе, як тыя героі-беларусы, аб якіх нясьліся чуткі з Бацькаўшчыны, а як брудны чарвяк у памыйнай яме жывучы. Ах, сьмейся, паяц, над каханьнем Тугоўскага!

Цяпер чатыры дні ён будзе вісець над прорвай, чатыры дні ён ня зможа думаць ні аб чым іншым, як аб тым цёмным дне, куды ён можа зваліцца.

Сумна й нічога не заўважаючы навокал сябе, ён ішоў па вуліцах Прагі. Непрыкметна ён выйшаў на бераг Влтавы. Купальны сэзон быў у самым разгары. На вялікім паўвостраве пад назвай "Цэсарава лодка" быў шумны пляж, на якім грэліся на сонцы разам мужчыны й жанчыны ў купальных касьцюмах. Дзесьці ўдалі несьліся гукі патэфону й хлопалі адчыняемыя бутэлькі піва й ліманаду. Усё клікала да жыцьця, усё было ахоплена радасьцей жыцьця й навокал раскідывала брызгі сьмеху.

"Хоць бы пайсьці пасядзець на пляжы, пабачыць, як людзі жывуць", — падумаў Тугоўскі і пераехаў на лодцы на вясёлы паўвостраў. Не пасьпеў ён вылезьці на бераг, як ужо нехта махаў яму рукой і клікаў па прозьвішчу. Тугоўскі пазнаў Тамашэвіча. Чырвоны, загарэлы, прыгожы й малады з сваімі даўгімі кудрамі, ён выклікаў зьдзіўленьне й зайздрасьць Тугоўскага. Цела — гэта, як чытаў ён у кнізе аб венерычных хваробах, яднаньне чыстаты й хараства, было запраўды прыгожае ў Тамашэвіча, а не такое, як у Тугоўскага, пакрытае жахлівымі плямамі.

— Ну што, купацца прыйшоў? — весела спытаў Тамашэвіч, паціскаючы руку Тугоўскага.

— Не, хачу пагрэцца на сонцы і на людзей паглядзець.

— Добрая рэч... Ну, вітаю са стыпэндыяй. Як жа

224

цяпер, будзеш працаваць?

— Так. Цяпер трэба вярнуць загубленае...

— Ага... Памагла, напэўна, Маргарыта?

— Дык ну іх да ўсіх чартоў, гэтых Маргарыт, — махнуў рукой Тугоўскі, — дзеля іх толькі адно мучэньне й турботы.

— Ага... Знача перамог мой погляд. Знача, ты становісься на грамадскі грунт. Вітаю.

Тугоўскі ведаў, што за апошнія часы Тамашэвіч зьмяніў сваё адношаньне да яго, жадаючы зацягнуць яго ў загранічны камітэт партыі эсэраў. Дзеля гэтага ён стараўся гутарыць з ім па-сяброўску, прынасіў таўстую часопісь Камітэту і расейскую часопісь. Але Тугоўскі й ня думаў паддавацца яго ўплывам.

— Маё заданьне цяпер пільна вучыцца, — прамовіў Тугоўскі.

— Ну, а што будзе з Маргарытай? Як я чуў, ты быў вельмі ў яе закаханы.

— Што было, то сплыло. Гэта няма чаго спамінаць.

— А ўжо ж, — засьмяяўся Тамашэвіч. — Толькі вось цікава... Ага... Яшчэ ўспомніў. Навіны пра Загорскага ведаеш?

— Не.

— Цяпер ён іграе брадзячым музыкантам па рэстаранах. Усё спамінае цябе моцным словам за тое, што ты выгнаў яго з інтэрнату.

— Спамінае, — засьмяяўся Тугоўскі, — гэта вельмі добра...

— Так... Ён пераежыў цэлую трагэдыю. Адзін раз уначы сяджу я на аднэй станцыі ў Сьміхаве. Гляджу, ідзе Загорскі з чэмаданам. "Куды так?" — пытаю. — "Эх, разьбіта маё жыцьцё й каханьне. Чэшка мяне прагнала.

---

Працяг.

Пачатак у №№ 23 — 49.

# ВЫБАР НЕВЫПАДКОВЫ

## КАРОТКАЕ ЗНАЁМСТВА СА СТАРШЫНЁЙ ПРАЎЛЕННЯ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА» КАМПАЗІТАРАМ Сяргеем КАРТЭСАМ



**На апошняй, чацвёртай, канферэнцыі таварыства «Радзіма» быў абраны новы старшыня гэтай грамадскай арганізацыі. Ім стаў вядомы беларускі кампазітар, які нядаўна ўзначаліў наш акадэмічны тэатр оперы і балета, Сяргей Картэс. Выбар гэты невыпадковы. Сяргей Альбертавіч дваццаць гадоў жыў у Аргенціне сярод людзей, дзеля якіх у свой час было створана і таварыства «Радзіма», і газета «Голас Радзімы». На старонках гэтага выдання пра сям'ю Сяргея Картэса пісалася даволі многа і падрабязна. Яе старэйшына, дзед Сяргея, журналіст і пісьменнік Павел Шастакоўскі падняў з наседжаных месцаў у Аргенціне сваіх дзяцей і ўнукаў і прыехаў у пасляваенную Беларусь.**

— Так, дзед падаў прашэнне з просьбай дазволіць вярнуцца на Радзіму ўжо ў 1948 годзе. Разам з ім прыехала ўся сям'я і я, канешне.

**— Сяргей Альбертавіч, прадстаўцеся, калі ласка, нашым чытачам.**

— Я нарадзіўся ў Чылі ў 1935 годзе. Бацька ў мяне іспанец, маці руская. Да 1955 года жыў у Буэнас-Айрэсе. З 17 гадоў актыўна ўдзельнічаў у рабоце клубаў суайчыннікаў. Мусіць, паўплывала на мае прыхільнасці і тое, што мой дзед Павел Пятровіч вёў грамадскую работу, быў старшынёй Славянскага камітэта.

**— Ці падтрымліваеце вы зараз сувязі са славянскай дыяспарай у Аргенціне?**

— Я не быў там 34 гады. І вось зусім нядаўна наведаў Буэнас-Айрэс, сустрэўся з вельмі многімі з тых, з кім сябраваў, працаваў разам у патрыятычных арганізацыях. Што сказаць аб гэтай паездцы? Для мяне яна надзвычай важная. Было і прыемна, і сумна. Няма ўжо таго вялікага калектыву савецкіх грамадзян, якія існавалі тады. Многія пайшлі з жыцця, маладзейшыя паступова асімілююцца. Гэта натуральны працэс. Калі мы жылі ў Аргенціне, славяне не дзяліліся на рускіх, украінцаў, беларусаў. І тут, у нашай краіне, ніхто не думаў тады дзяліцца. Цяпер такі падзел патрэбны, мусіць, для ўзняцця нацыянальнай свядомасці кожнага з трох народаў. А вось у Аргенціне, ды і ў іншых краінах, дзе жывуць славяне, такі падзел рабіць не варта. Славянскія карані кансалідуюць эмігрантаў, робяць іх мацнейшымі. Ад гэтых каранёў ніхто не адракаецца, нават і з маладзейшых. Цікавасць да радзімы прадкаў захоўваецца, як захоўваецца імкненне быць ёй карысным.

**— Што вы маеце на ўвазе?**

— У час другой сусветнай вайны мы ў Аргенціне збіралі грошы, рэчы, каб дапамагчы суайчыннікам, якія змагаліся з ворагам. Гэта нас аб'ядноўвала з Радзімай. Цяпер з'явіўся Чарнобыль. І мы ў час сваёй паездкі прапанавалі, каб землякі запрасілі беларускіх дзяцей да сябе на адпачынак. Ідэя захапіла іх, бо, бадай, упершыню з часоў вайны яны зноў адчулі, што могуць быць карыснымі Бацькаўшчыне. Але якое было расчараванне, калі высветлілася, што запрасіць дзяцей напрамую з Беларусі немагчыма. Патрэбна пасрэдніцтва Масквы, нейкіх прафсаюзных структур. А там чамусьці людзі даволі абыякава ставяцца да нашай бяды. Шкада будзе, калі ідэя гэта не знойдзе ўвасаблення. Праўда, група з 25 чалавек пабывала ў Аргенціне, але гэта былі дзеці не з Беларусі.

**— Вас абралі старшынёй Таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом. Як уяўляеце вы сваю работу на гэтай пасадзе?**

— Мне пакуль што цяжка гаварыць пра нейкія канкрэтныя захады. Я ўшчыльную пакуль што ёю не займаўся, а таварыства ж працуе, і даволі плённа, ужо дзесяткі гадоў. Гаварыць можна аб працягу работы дзеля высокай мэты. Магу толькі вызначыць нейкія напрамкі, што здаюцца мне слушнымі ў прымяненні да сучаснага моманту.

Тым, хто жыве за межамі Бацькаўшчыны, вельмі патрэбна інфармацыя, як мага больш праўдзівай інфармацыі і аб палітычнай сітуацыі ў краіне, і аб родных мясцінах выхадцаў з Беларусі, каб не адчувалі яны сваёй адарванасці, каб помнілі, адкуль яны паходзяць.

У аб'яднанні суайчыннікаў за мяжой і ў Беларусі важная роля, на маю думку, належыць царкве. У многіх абшчынах няма сваіх клубаў, але абавязкова ёсць царква. Раней «Радзіма» называлася таварыствам па культурных сувязях з суайчыннікамі за мяжой, цяпер яна стала таварыствам па розных сувязях. І гэта правільна. Нам трэба развіваць эканамічныя, камерцыйныя, дабрачынныя — адным словам, самыя разнастайныя кантакты. Не забываючы, канешне, і пра культурныя. Добра было б, каб мы маглі пасылаць у замежныя краіны сваіх харэографаў, кіраўнікоў хораў, якія б дапамагалі землякам ствараць мастацкія калектывы, каб часцей ездзілі да іх з канцэртамі беларускія артысты.

**Гаворка наша адбывалася ў дырэктарскім кабінеце Сяргея Картэса. Яна ўвесь час перарывалася тэлефоннымі званкамі, нехта ўваходзіў з пытаннямі, некаму тэрмінова трэба было падпісаць паперу. Я спытала ў Сяргея Альбертавіча, як такая работа адбіваецца на яго творчасці, ці не перашкаджае.**

— Перашкаджае, але я пайшоў на гэта свядома. Хочацца паспрабаваць свае сілы. Можа ўдасца ўвасобіць у жыццё ўласную ідэю з тэатрам, зрабіць яго лепшым, папрацаваць на іншай ніве. Дарэчы, як і ў таварыстве «Радзіма».

**Гутарку вяла Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

# НЕ Ў КРЫВЫМ ЛЮСТЭРКУ БАЧЫЦЬ

## МОЖНА ЦЯПЕР УСЁ, ШТО РОБІЦЦА НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

— А гэта важней, чым недахоп каўбасы ці мяса. Нешта ж будзе, міне ліхі час, і гэтыя прадукты ўдосталь зможаце купляць, а вось свабоду слова, дэмакратыю ні за якія грошы не прыдбаеш. Колькі стагоддзяў змагаецца беларускі люд за незалежнасць? Лічыце, пачынаючы з Полацкага княства, — горача даказваў мне мой замежны субяседнік, зямляк з Аўстраліі, чалавек паставы крэпкага аратага. А каб быў Яўген Груша хліпкім і кволым, дык што-што, але 31 год не здолеў бы выпрацаваць шафёрам гарадскога аўтобуса, бо...

— Хуліганства ў нас такое, ведаеце, маладыя не хочуць плаціць за праезд, хочуць ехаць дарма, а калі не — б'юцца. Кожны тыдзень кагосьці паб'юць, безліч п'яных...

— А я думаў у нас больш, чым дзе, — вырвалася ў мяне.

— У вас я столькі не бачыў...

(Праўда, спадар Груша тут мяне не пераканаў, але нешта накшталт задавальнення ўсё-такі варухнулася ў душы: хоць у нечым, але з аўстралійцамі ў нагу крочым...).

Зараз Яўген Груша знаходзіцца на пенсіі, але ад грамадскай дзейнасці не адышоў, з'яўляецца старшынёй Федэрацыі беларускіх арганізацый у Аўстраліі.

— Наша арганізацыя — палітычная. Аб'ядноўвае 12 розных суполак, якія месцяцца ў Сіднеі, Мельбурне, Адэлаідзе, Пэрце. Мы сорак гадоў змагаліся, каб Беларусь была незалежнай, мела свой сцяг, герб. І сёння гэта — рэчаіснасць. Перабудова — дзейсная заваёва, яна дала мажлівасць бачыць з'явы і жыццё не ў крывым люстэрку, як раней, наладзіць сувязі з Бацькаўшчынай. Іх не было ў нас дагэтуль. А беларус. іміграцыя ў Аўстраліі пераважным чынам складзена з бежанцаў другой сусветнай вайны. Як іх многа? Некалі ваша газета пісала, што 20 тысяч. Думаецца, мо трохі менш, а сённяшнім часам, дык напэўна. Многіх ужо няма ў жывых, многія асіміляваліся, цураюцца беларускасці. У Мельбурне, скажам, Беларускі цэнтральны камітэт мае 37 сяброў, што аплачваюць узносы. Працуе жаночы камітэт, Беларускі дом, шэраг іншых сябрын. Ёсць вялікая парафія (да Федэральнай рады яна не адносіцца), свая царква ў гэтым жа горадзе. Як пойдзеш да царквы, абавязкова са сваімі пабачышся. А на святы — там і месца няма дзе стаць. Беларусы жывуць у Аўстраліі, аднак справа такая, што лучаць сябе з нашай нацыяй, як я сказаў, нямногія. Нацыянальна свядомых людзей мала засталося. Але трываем: у Сіднеі Міхась Лужынскі вядзе аднагадзінную радыёпраграму на роднай мове, у Пэрце — Міхась Раецкі паўгадзінную.

(Слухаў я замежнага госця... А госць ведае гісторыю Радзімы, размову будуе на выдатнай яе мове без паланізмаў і англамоўных запазычанняў, якія надта ўласцівыя нашым іміграантам. І так будуе, што разумееш: яна ў яго штодзённая, родная. Слухаў я і няёмка сябе адчуваў. Гляньце, на найменшым з шасці мацерыкоў зямлі не бракуе ў беларусаў нацыянальнай свядомасці!.. Чым жа, у гэтым сэнсе, мне было пахваліцца перад ім, што параіць, калі на Беларусі гэтая мова — мова, выходзіць, меншасці...).

Згадаў аўстралійскі беларус пра бежанцаў другой сусветнай. Сталінскія рэпрэсіі і вайна, прапусціўшы і без таго змардаваны ліхалеццямі народ праз крывавую мясарубку, аддзялілі ад яго, цэлага, часткі і пагналі іх па свеце. Дзялілі «на вока», не вымяраючы, жудасна і без літасці, увагнаўшы страх глыбока-глыбока ў людскую свядомасць. («Некаторыя са старых вярнуліся б з Аўстраліі на Беларусь, каб не баяліся сталіншчыны. І каб ім пенсію, вядома, пераявлі», — гаварыў мне Яўген Груша).

Сам жа старшыня Федэрацыі трапіў у Германію ва ўзросце 6 гадоў разам з маці і братамі, бацька загінуў на фронце. Доўга бадзяліся з лагера ў лагер, пакуль у нейкім апошнім улады не зладзілі састаў з 400 асоб. Ад ваеннапалонных выпадкова даведаліся, што гэтыя «цялятнікі» мелі сваім накірункам Сібір. Усе чатыры сотні, успамінаў спадар Груша, ратаваліся тым, што ўцяклі. І толькі ў 49-м апынуліся ў краіне аўстралійскіх абарыгенаў і кенгуру. («Не, з тубыльцамі белыя людзі не мяшаюцца. Цяжка ім, абарыгенам, сігануць з каменнага веку адразу ў цывілізаваны. Заб'юць кенгуру, падсмажаць мяса, з'ядуць, паміж калкоў паставяць кару дрэва ад сонца і — спяць. І ўся работа...»).

Між іншым, у тым годзе дзяржава налічвала 7 мільёнаў чалавек, а сёння 17 складаюць адно іміграанты. А іх ёсць 172 нацыянальнасці. Увогуле ўсе жывуць у міры і згодзе, правільна будзе так канстатаваць. Тым не менш гістарычныя катаклізмы, якія сюд-туд ды ўзрушваюць іхнія айчыны, нярэдка праектуюцца на дыяспару і ствараюць новыя ўзаемаадносіны альбо рэанімуюць старыя. Напрыклад, калі сербы з харватамі гуляюць у футбол, публіцы забаронена прысутнічаць: б'юцца. Пашкоджана сербская царква, харвацкі грамадскі дом...

Сказанае пра «рэанімацыю» ў нейкай ступені тычыцца і тых іміграантаў альбо іх асобных груп, хто этнічна звязаны і з былым Савецкім Саюзам. Як сведчыць наш беларус з Аўстраліі, з 1954 года няма сюды прытоку нашых суайчыннікаў. Шмат наехала палякаў пасля таго, як Ярузельскі забараніў «Салідарнасць», угорцаў пасля паўстання 1956 года. Папаўненне прыйшло і да рускіх: Кітай адправіў са сваёй тэрыторыі «белую эміграцыю». А яна стаіць і будзе стаяць на пазіцыях манархізму і адзінай імперыі, таму самастойныя суполкі беларусаў і ўкраінцаў не прызнае. Маўляў, «нет и не может быть». Выяўляецца гэтая акалічнасць нават у такой справе, як дапамога ахвярам Чарнобыля. Каб узяць дзіця з Беларусі ў сваю сям'ю на аздараўленне (а жадаючых зрабіць гэта многа), трэба стаць членам рускага таварыства. Выйсце з такога становішча Федэрацыя беларускіх арганізацый у Аўстраліі бачыць у прамым кантактаванні з Беларуссю. Іменна дзеля наладжвання непасрэдных сувязей і прыехаў Яўген Груша. І прывёз ад імя федэрацыі груз дабрачынных ахвяраванняў коштам 30 тысяч долараў, які сам і перадаў Гомельскай абласной бальніцы. (Аб гэтым мы ўжо інфармавалі нашага чытача ў «Голасе Радзімы», № 44 ад 31 кастрычніка. Вельмі сціслыя тэрміны знаходжання ў Мінску і клопаты госця не дазволілі мне тады грунтоўна пагаварыць з ім. Мы дамовіліся сустрэцца ў Салігорску, на кватэры ягонай пляменніцы, што і было здзейснена).

— Ведаеце, пра Чарнобыль у нас гавораць і пішуць, але прапаганда такая, што нібыта больш за іншых ад радыяцыі пацярпелі Украіна і Расія. Аб сапраўдным становішчы мы, вядома, дазнаёмся з вашых газет. ...А вось аўстралійскаея грамадскасць... Асабіста на мяне вялікае ўражанне зрабіла наведванне адселенай вёскі Барталамееўка, што ў 40 кіламетрах ад Гомеля. Да нядаўняга было ў ёй 360 двароў. Засталося 12 душ. Зайшлі ў адну хату, маладзіца 25 гадоў цяжарная... Мужык і яго бацькі на працы. Чаму ж не адсяляюцца? Чаму сябе на смерць прысудзілі? На дварэ забруджанасць дасягае 40 кюры, а хто-колечы гаворыць і 400. Я гадзіну пабыў — усе зубы як іголкамі пачало калоць.

Наведаў і Дом малюткі ў Менску. У дзіцяці галава ў чатыры разы большая, як трэба. У каго ручкі крывыя, а хто, наогул, без рук. Няма нічога больш жахлівага, як глядзець на дзіцячыя пакуты: хворыя, бледныя, валасы павылазілі. За што такая навалач? Цяпер маем дамоўленасць з Гомелем, з фондам «Дзеці Чарнобыля». Беларусы з Аўстраліі прамым шляхам без пасрэднікаў будуць прымаць чарнобыльскіх дзяцей Бацькаўшчыны. Усё, што можам, зробім, каб ім дапамагчы.

...Будзем спадзявацца, што магчымасць і права бачыць і пазнаваць свет у яго праўдзівым, натуральным адлюстраванні паслужаць нам усім на карысць, паразуменне і памяркоўнасць.

Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.

*ПАЛЕМІКА*

# ЧОРНАЯ РУСЬ—НЕ «ЛІТОЎСКАЯ»

## (НАКОНТ АДНОЙ ВЕРСІІ ПІСЬМЕННІКА К. ТАРАСАВА Ў КНІЗЕ «ПАМЯЦЬ ПРА ЛЕГЕНДЫ»)

Увагу чытачоў, якія цікавяцца гістарычнай публіцыстыкай, у першую чаргу, як правіла, прыцягваюць творы, для якіх характэрны эмацыянальна-вобразны пераказ падзей. У гэтым плане на першае месца сярод выданняў апошняга часу можна паставіць кнігу К. Тарасава «Памяць пра легенды. Постаці беларускай мінуўшчыны» (Мн.: Полымя, 1990). Гэтая кніга, хаця ў ёй і змяшчаюцца ключавыя моманты гісторыі Беларусі, пачынаючы з язычніцкіх часоў, не з'яўляецца традыцыйным апавяданнем з пералікам у храналагічнай паслядоўнасці падзей і фактаў часоў мінулых. Пісьменнік, прыўзнімаючы заслону часу, імкнецца пачуць галасы і наглядна ўявіць дзеючыя асобы беларускай даўніны. У кнізе адзін за другім паўстаюць вобразы сучаснікаў тых падзей, аб якіх ідзе гаворка — Рагнеды, Усяслава-Чарадзея, Сімяона Полацкага, Сымона Буднага, Афанасія Філіповіча, Тадэвуша Касцюшкі, Адама Міцкевіча, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча... Пісьменнік — не вучоны (К. Тарасаў гэта, дарэчы, сам падкрэслівае), таму яго кніга не можа лічыцца строгім навуковым даследаваннем. Але, звяртаючыся да мінулага, пісьменнік абавязаны прытрымлівацца гістарычнай праўды, па крайняй меры, паведамляць чытачу рэальныя факты і не выдаваць за такія сваю праўдападобную пісьменніцкую выдумку. Паказальным у гэтым плане ўяўляецца раздзел «Русь Літоўская», у якім аналізуецца пачатковы этап гісторыі Вялікага княства Літоўскага. Апрача дробных, скажам так, «праколаў» тыпу таго, што «90 працэнтаў назваў рэк і азёраў Беларусі захавалі сваё балцкае паходжанне» ці што «сама назва Полацка... нясе на сабе прамое адлюстраванне латышскага паходжання» і да т. п. (цікава ўсё ж было б даведацца пра крыніцы гэтых аўтарскіх «адкрыццяў»!), у гэтым раздзеле ёсць адзін вельмі буйны, але недасведчанаму чытачу, магчыма, і не прыкметны «ляпсус». Мы маем на ўвазе паняцце ЛІТОЎСКАЯ РУСЬ.

Як відаць, К. Тарасаў лічыў, што ў шэрагу такіх гістарычна засведчаных назваў, як Белая, Чырвоная, Чорная, Вялікая, Малая, Уладзіміра-Суздальская, Кіеўская, Залеская, Галіцкая Русь, назва Літоўская Русь цалкам да месца і нібыта заканамерная. На справе ж тут злучана незлучальнае.

Абазначэнні Белая і Чырвоная Русь спрадвеку разумеліся ў пpастopaвым сэнсе — адпаведна як «Заходняя» і «Паўднёвая» Русь. Вялікая Русь—гэта «першапачатковая» Русь, Малая Русь — «другасная», «новая» Русь (параўнаем назвы вёсак у Беларусі, Расіі, на Украіне з кампанентамі «вялікі» і «малы»; напрыклад, Вялікая Крушынаўка — першапачатковая, больш старая вёска, Малая Крушынаўка — позняя, больш новая вёска). Згодна з В. Тацішчавым, «бацькам расійскай гісторыі», Вялікая Расія — «галоўны рубеж у Расійскай імперыі», межы яе ён вызначаў наступным чынам: «на поўнач да мора Паўночнага, на ўсход па Цвер і княжанне Растоўскае, на поўдзень уключалася княжанне Полацкае і ўся Лівонія па Мемель, на захад мора Алціскае да заліва Батнічнага» (В. М. Тацішчаў. Выбраныя творы.— Л., 1979, с. 206). Малая ж Русь першапачаткова — гэта наваколлі Кіева, Кіеўская зямля; сам Кіеў — цэнтр Малой Русі. Сюды, у Кіеў, у 882 годзе была перанесена сталіца з Вялікай Русі (Ноўгарад, Ладага) князем Алегам, які аб'яднаў паўночную і паўднёвую часткі Усходняй Славіі ў адзіную дзяржаву.

Назвы Галіцкая, Уладзіміра-Суздальская, Залеская Русь і да т. п.— найбольш новыя, яны ўказваюць на пэўныя тэрытарыяльна - адміністрацыйныя адзінкі, княжацкія ўдзелы ці ўвогуле на геаграфічныя вобласці (як напрыклад, Залеская Русь). Назвы ж Літоўская Русь не было. Слова Русь (русь), як і слова Літва (літва), разумеліся ў старажытнасці ў геаграфічным і этнічным сэнсе: русь, літва — народ, Русь, Літва—краіна, населеная руссю, літвой. Значыць, калі гэта Русь, то ніяк не Літоўская (чаму ў такім выпадку няма Мардоўскай, Печанежскай, Палавецкай, Яцвяжскай і да т. п. Русі?). Калі гэта Літва, то ніяк не Русь (Рускай Літвы ж няма).

Фантазія, відавочна, падвяла К. Тарасава ў намаганнях гістарычна абгрунтаваць «беларускі» характар Вялікага княства Літоўскага. Зрэшты, для доказу гэтага не варта было так ухітрацца. Відаво — відавочна. Іншая справа, о К. Тарасаву, як і некаторым іншым сучасным аўтарам, відаць, не да густу слова Русь, няхай нават і ў спалучэнні са словам Белая. «Милее слуху лу» назва Літва? «Не белар мы, а ліцвіны?» А калі ўсё-такі — Русь, то лепш Літоўская. Тут вытокі нашай дзяржаўнасці: «Літва! Айчына мая!» Усё гэта, аднак, не больш, чым патэтыка, паэзія, высокі стыль.

Канструюючы паняцце Літоўская Русь, звонку такое ўдалае, Тарасаў робіць яшчэ адну памылку. Ён атаясамлівае назвы (ды і паняцці) Літва, «Літоўская Русь» і Чорная Русь, папросту ўводзячы чытача ў зман. Згодна з яго інтэрпрэтацыяй, гэтыя назвы функцыяніравалі на даволі вялікай тэрыторыі — ад Гродна да Навагрудка і ад Ліды да Вільні. А раз так, то ўсе гэтыя паняцці ў геаграфічным плане—тое ж самае. Калі ж улічыць, што назва Чорная Русь, паводле версіі К. Тарасава, не больш, чым фантазія крыжаносцаў («Чорная» — значыць, «населеная літоўскімі язычнікамі і рускімі схізматыкамі»), то рэальна застаюцца толькі два паняцці — Літва і Русь, разам жа—Літоўская Русь. Схема, шчыра скажам, для наіўных.

Дзіўна, вельмі нават дзіўна, што добра знаёмы, мяркуючы па зместу кнігі, з работамі дарэвалюцыйных беларускіх, рускіх, а таксама савецкіх і замежных даследчыкаў, пісьменнік, тым не менш, «не заўважае», што геаграфічна Літва і Чорная Русь — далёка не адно і тое ж.

У адпаведнасці з гісторыка-геаграфічнымі апісаннямі XIX стагоддзя, назва «Чорная Русь» у шырокім сэнсе ахоплівала ўсю паўднёва-заходнюю частку сучаснай Беларусі — паветы Навагрудскі, Слонімскі, Ваўкавыскі, Слуцкі, Мазырскі, Рэчыцкі, а таксама частку паветаў Беластоцкага, Сакольскага і Гродзенскага. У вузкім сэнсе тэрыторыя Чорнай Русі абмяжоўвалася толькі часткамі Лідскага і Навагрудскага паветаў. «Гістарычны» цэнтр Чорнай Русі—Лідскі, Навагрудскі, Ваўкавыскі, Гродзенскі, Слонімскі паветы, гэта значыць, большая частка сучаснай Гродзенскай вобласці. Назву Чорная Русь зусім не «прыдумалі» крыжаносцы. Яшчэ ў другой палове XIX стагоддзя такое аўтарытэтнае гісторыка-геаграфічнае даследаванне, як «Живописная Россия» (т. 3, ч. I. — С.-Птб., М., 1882. с. 13—14) адзначала этнаграфічную групу чарнарусаў у Лідскім павеце, для якіх было характэрным чорнае адзенне. Назва Чорная Русь у Верхнім Панямонні ўзнікла прыкладна ў XI—XII стагоддзях, пасля таго, як усходнеславянскія племянныя групоўкі дрыгавічоў, валынян, часткова крывічоў перамясціліся ў гэты раён. Назва Чорная Русь уяўляла сабой своеасаблівы «пераклад» папярэдняй заходнебалтыйскай (яцвяжскай) назвы Кірсновія — «чорная (зямля, тэрыторыя)», прычым, гэты «пераклад» адбыўся ў час асіміляцыі яцвяжскага насельніцтва славянамі. На тэрыторыі былога Лідскага павета, з якім звязана назва Чорная Русь у вузкім яе разуменні, да XIV стагоддзя размяшчалася так званае Дзяйноўскае княства, вёска ж Дайнова, што знаходзіцца непадалёку ад Ліды, была сталіцай гэтага княства. Назва Дайнова ўтварылася ад этнічнага імя дайнова, якое з'яўлялася літоўскім абазначэннем яцвяжскіх плямёнаў. Аўтары «Живописной России» адзначалі, што ў XIX стагоддзі ў паўднёва-ўсходняй частцы Лідскага павета пражывалі дзяйноўцы, але пры гэтым спецыяльна агаворвалася, што дзяйноўцы нічым не адрозніваліся ад беларусаў. У гэтым сцвярджэнні адлюстраваны рэальны факт — славянская асіміляцыя нашчадкаў старажытнага народа яцвягаў.

Вобласць Дзяйнова ў басейне верхняга Нёмана і яго правых прытокаў вядомая з сярэдзіны XIII стагоддзя. Н. Барсаў у кнізе «Очерки русской исторической географии. География начальной (Нестеровой) летописи» (Варшава, 1885, с. 237) размяшчаў «літоўскую вобласць Дзяйнову» па правых прытоках Нёмана—Гаўі, Дзітве і Мерачанцы, у межах паветаў Лідскага, Ашмянскага і ў паўднёвай частцы Віленскага. У паўночна-ўсходняй частцы сучаснай Гродзенскай вобласці фіксуецца 10 геаграфічных назваў, звязаных з этнонімам дайнова (дзяйнова). Гэта тапонімы тыпу Дайнова, Дайноўка, Дойнеўцы (вёскі ў Лідскім, Воранаўскім, Ашмянскім, Іўеўскім, Астравецкім, Смаргонскім раёнах). На поўдзень ад Нёмана, у Гродзенскім, Дзятлаўскім, Карэліцкім, Свіслацкім, Ваўкавыскім, Баранавіцкім і Івацэвіцкім раёнах, фіксуецца зноў-такі 10 назваў, утвораных ужо ад славянскага абазначэння яцвягаў — ятвягі, ятвезь (вёскі Ятвезь, Ятвязь, Ятвіск). Нёман, такім чынам, з'яўляўся своеасаблівай мяжой паміж пасяленнямі тыпу Дайнова і Ятвезь.

Указаныя назвы сведчаць аб узаемадзеянні славянскага, літоўскага і яцвяжскага насельніцтва. Але самае цікавае заключаецца ў наступным: калі суаднесці тэрыторыю распаўсюджання даных геаграфічных назваў з тэрыторыяй Чорнай Русі (менавіта з яе «цэнтрам», гл. вышэй), то аказваецца, што яны супадаюць. На тэрыторыі суседняга былога Беластоцкага павета зафіксаваны геаграфіч- назвы, утвораныя ад прус- слова кірснан (kirsnan)— «чорны» (яцвягі і прусы — заходнебалтыйскія народы, блізкія паміж сабой, таму летапісцы не заўсёды дакладна адрознівалі гэтыя плямёны). Да тэ рыі Беластоцкага павета ма адносілася назва Чорная Русь.

Аславяненымі нашчадкамі яцвягаў-дзяйноўцаў былі чарнарусы Лідскага павета, якія мелі некаторыя этнаграфічныя асаблівасці (чорнае адзенне). Відаць, гэта, ды і магчымыя іншыя асаблівасці з'яўляліся характэрнымі для сапраўдных яцвягаў, якія жылі ў Чорнай Русі яшчэ ў XIII стагоддзі (рэліктавыя «астраўкі» яцвяжскага насельніцтва захоўваліся ў самых заходніх раёнах Беларусі аж да XIX стагоддзя). Можа быць, гэтыя этнаграфічныя асаблівасці і абумовілі з'яўленне вызначэння «чорны» ў адносінах і да народа, і да тэрыторыі яго пражывання.

Не выключана і іншае тлумачэнне: Кірсновія, гэта значыць «Чорная зямля», разумелася як «заходняя» тэрыторыя, таму што менавіта ў балцкай традыцыі чорны колер сімвалізаваў заходні бок. Але Кірсновія—гэта заходнебалтыйская па паходжанню назва. Значыць, «Чорнай», ці «Заходняй» тэрыторыю Верхняга Панямоння маглі назваць толькі балты, якія жылі на ўсход ад «Чорнай зямлі» — Кірсновіі. На ўсход ад Чорнай Русі (Кірсновіі), у своеасаблівым трохвугольніку паміж Навагрудкам, Маладзечнам і Мінскам, ляжала гістарычная Літва (у гэтым мы поўнасцю згодны з таленавітым гісторыкам і праніклівым даследчыкам Міколам Ермаловічам). На наш погляд, гістарычную Літву насяляў народ, больш блізкі яцвягам, чым сучасным літоўцам.

Вось яшчэ некалькі цікавых звестак аб назве Чорная Русь.

Да XV стагоддзя даная назва страціла свае старажытныя асацыяцыі і пачала пераасэнсоўвацца. Гэта было непазбежна, бо змяніліся гістарычныя ўмовы функцыяніравання назвы: раёны Чорнай Русі ўвайшлі ў склад новай дзяржавы—Вялікага княства Літоўскага. Рэшткі яцвягаў, якія зжыліся са славянскім насельніцтвам, упарта і настойліва супраціўляліся хрысціянству і аберагалі язычніцкія абрады сваіх бацькоў і дзядоў. З XV—XVI стагоддзяў назва Чорная Русь набывае «рэлігійнае» адценне значэння, гэта значыць пачынае разумецца як «язычніцкая» Русь, зямля, дзе жывуць язычнікі. Вось тут якраз дарэчы тлумачэнне К. Тарасава, але варта яшчэ раз падкрэсліць, што крыжаносцы да падобнага пераасэнсавання назвы Чорная Русь ніякіх адносін не мелі. У XVII—XVIII стагоддзях Чорнай Руссю называліся раёны, дзе не было перавагі каталіцкага ці праваслаўнага насельніцтва. У гэты перыяд даная назва распаўсюдзілася на Слуцкі, Мазырскі і Рэчыцкі паветы, гэта значыць сфарміравалася шырокае разуменне Чорнай Русі (гл. вышэй).

Нельга абысці маўчаннем і такі факт. Назва Чорная Русь у XIV—XVII стагоддзях мела адносіны да тэрыторыі Маскоўскага княства, а затым Маскоўскай дзяржавы, «Масковіі». Праўда, гэта была зусім іншая, не звязаная з Чорнай Руссю, што існавала ў Верхнім Панямонні, назва. Чорная Русь у адносінах Масковіі разумелася як «Паўночная» Русь, гэтая назва была дадзена цюркскімі народамі, верагодна, насельніцтвам Залатой Арды ці Сярэдняга Паволжжа. Менавіта цюркскія народы з'яўляліся найбольш паслядоўнымі носьбітамі прасторавай сімволікі колераазначэнняў. У іх разуменні чорны колер сімвалізаваў поўнач, белы—захад (адсюль—першапачатковая Белая Русь — назва, што ўзнікла ў волжскіх булгар, а затым пераасэнсавалася ў адпаведнасці са славянскай традыцыяй).

Былі і іншыя лакалізацыі назвы Чорная Русь, напрыклад, на Валыні, у Галіцыі. Але падобнае размяшчэнне Чорнай Русі, як можна меркаваць, было памылковым, выпадковым. Памылка была звязана з тым, што назва Чорная Русь у мінулым гучала амаль аднолькава з назвай Чырвоная Русь (першапачаткова — Чэрмная Русь), што мела адносіны да старажытнай Галіцка-Валынскай зямлі, наваколляў Львова.

**А. КАТЭРЛІ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

*СПАДЧЫНА*

# ГІМН ЖЫЦЦЯ

Сярод знакаў і сімвалаў выява крыжа, бадай, адна з самых распаўсюджаных і загадкавых. Распаўсюджанню спрыяла атрыбутыка хрысціянства, а загадкавасць тлумачыцца тым, што шматлікім народам у розных кутках свету крыж быў вядомы з глыбокай старажытнасці. Старажытным людзям здавалася, што два перакрыжаваныя промні сімвалізуюць сонца і агонь, жыццё і бессмяротнасць. Упрыгожаны пер'ямі крыж ставілі на магілы памёршых абарыгены Новай Зеландыі. Іспанскія місіянеры са здзіўленнем убачылі выявы крыжа ў храмах індзейцаў. На шматлікіх выявах багоў старажытных Егіпта, Бліжняга Усходу, Грэцыі і Рыма прысутнічае крыж.

Ёсць меркаванне, што пакланенне крыжа бярэ пачатак ад драўлянага крыжападобнага прыстасавання па здабычы агню. Пакланенне агню выклікала і пакланенне крыжу. Сімволіка крыжа адлюстроўвала напрамкі свету, яго стыхіі (неба, зямля, вада, агонь), жыццё і смерць, радасць і роспач.

Шанаванне крыжа хрысціянамі пачалося не адразу. Напачатку яны ставіліся да яго як да сімвала пакут. У Старажытным Рыме на Т-падобных крыжах каралі смерцю рабоў. Таму ў Новым Запавеце пра крыж гаворыцца як пра знак звера, увасабленне рымскага панавання. У 326 годзе васьмідзесяцігадовая маці імператара Канстанціна Алена адпраўляецца ў падарожжа ў Палесціну. Прыбыўшы ў Іерусалім, яна загадвае раскапаць месца мяркуемай Галгофы, на якой стаялі руіны паганскага храма. Пад абломкамі паганскіх муроў нібыта і знойдзены быў крыж, на якім распялі Хрыста. Частку крыжа Алена ўзяла для свайго сына, а астатняе змясцілі ў сярэбраную скрынку і перадалі іерусалімскаму епіскапу, які адзіны меў права яе адкрываць і дараваць часцінкі святога крыжа. У гонар гэтай падзеі хрысціянская царква ўстанавіла свята Ўзнясення крыжа гасподняга.

Канонікамі хрысціянскай царквы вяліся спрэчкі аб тым, якую форму меў крыж гасподні. Як сродак пакарання смерцю быў нароўні з Т-падобным (егіпецкі крыж, ці крыж Антонієў) вядомы і Х-падобны крыж (пазней крыж бургундскі). Урэшце схіліліся, што хутчэй за ўсё крыж быў чатырохканечны (слуп і гарызантальная перакладзіна). Акрамя таго, пакутніцкі крыж мог мець драўляны рог, на якім сядзеў распяты, прыступку для ног, шыльду, на якой запісваліся злачынствы асуджанага.

Пазначаныя дэталі стылізаваліся і дапаўнялі крыж-сімвал (крыжы пяцікутныя, шасцікутныя, сямікутныя, васьмікутныя). Святы Аўгусцін у IV стагоддзі нашай эры так апісваў крыж Хрыстовы: «...была шырыня, у якую прасцёрты былі рукі, даўжыня, якая ўзнімалася ад зямлі, на якой прыбіта было цела,

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# «НАША НІВА»: «ЗА НАС НІХТО ГАВАРЫЦЬ НЕ МОЖА»

**(Заканчэнне.**
**Пачатак на 1-й стар.).**
на і тое, што сярод былых лідэраў «Грамады» ўзмацніліся хістанні ў бок лібералізму, назіраўся адыход ад класавых, сялянскіх пазіцый да ідэі нацыянальнай згуртаванасці. Галоўнай у дзейнасці газеты стала барацьба супраць нацыянальнага прыгнёту, за прызнанне беларускай нацыі і культуры і яе раўнапраўе. Гэтую барацьбу падтрымлівалі і рэвалюцыйныя дэмакраты. Суіснаванне дзвюх плыняў у газеце было вымушаным і для дэмакратаў, і для лібералаў. Адной з галоўных прычын гэтага быў недахоп фінансавых сродкаў. Гарадская гандлёва-прамысловая буржуазія складалася практычна з яўрэйскай буржуазіі. Беларуская нацыянальная буржуазія, якую ў асноўным прадстаўлялі кулакі, разумела сваю слабасць і імкнулася да саюза з рускімі шавіністычнымі ці польскімі нацыяналістычнымі групоўкамі. Памешчыкі адмоўна ставіліся да беларускага нацыянальнага руху. У выніку ў кіраўнікоў руху заўсёды адчуваўся востры недахоп сродкаў, у першую чаргу для развіцця друку. Гэтым, а таксама ўмовамі рэакцыі і ганення беларускага нацыянальнага руху мясцовымі ўладамі і чарнасоценцамі, з аднаго боку, і польскімі памешчыцка-клерыкальнымі кругамі, з другога, і тлумачыцца ўказанае вышэй супрацоўніцтва ў «Нашай ніве» дэмакратаў і лібералаў.

Адным з галоўных сродкаў царызму ў барацьбе з рэвалюцыйным і нацыянальна-вызваленчым рухам у гады рэакцыі стала прапаганда вялікадзяржаўнага шавінізму.

Разам з урадам выступалі ўсе чарнасоценныя партыі прыгоннікаў - памешчыкаў: «Савет аб'яднанага дваранства», «Саюз рускага народа», «Рускі ўскраінны саюз», іх органы друку, якія ўдзялялі вялікую ўвагу барацьбе з нацыянальнымі рухамі, «іншародніцкім засіллем», выступалі за скасаванне «Маніфеста 17 кастрычніка». Канчатковая мэта палітыкі ўрада і крайне правых зводзілася да таго, каб задушыць вызваленчы рух, прывесці да поўнай пакорнасці ўсе нярускія народы Расіі, паралізаваць іх волю да барацьбы за нацыянальнае раўнапраўе.

Асаблівасці палітыкі царызму на Беларусі былі звязаны са спецыфікай сацыяльна-класавага і нацыянальнага складу насельніцтва, у першую чаргу пануючых класаў, і імкненнем царызму зменшыць ролю палякаў і яўрэяў у эканамічным і палітычным жыцці краю. Гэтым тлумачацца таксама тыя значныя змяненні, якія былі ўнесены ў новы выбарчы закон па выбарах у III Дзяржаўную думу. У адпаведнасці з гэтым законам, у Віленскай губерні, дзе пераважала землеўладанне польскіх памешчыкаў, прадугледжвалася стварэнне «рускай» курыі, якая павінна была пасылаць у Думу сваіх прадстаўнікоў асобна ад іншага насельніцтва.

Да гэтай курыі былі далучаны ўсе праваслаўныя (у тым ліку і беларусы), стараверы і лютэране. Каталіцкае насельніцтва губерні ўключалася ў польскую курыю. У большасці паветаў Віцебскай, Гродзенскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў памешчыцкая і гарадскія курыі былі падзелены на тры аддзяленні па нацыянальнасці. Да першага аддзялення аднесены асобы, якія не належалі да польскай нацыянальнасці (да іх далучаліся праваслаўныя беларусы, немцы, татары), да другога—«палякі» (у тым ліку беларускія сяляне-каталікі), да трэцяга—яўрэі.

Зазначаныя мерапрыемствы ўрада былі накіраваны на абмежаванне прадстаўніцтва польскага і яўрэйскага насельніцтва, а таксама на тое, каб правесці ў Думу большасць прадстаўнікоў ад «истинно русских», г. зн. чарнасоценных элементаў. Разам з тым яны азначалі адмаўленне царызмам існавання беларускай нацыі, яе мовы, культуры. Значныя слаі праваслаўнага беларускага насельніцтва — чыноўнікі, духавенства, большасць настаўнікаў і іншых прадстаўнікоў інтэлігенцыі, вярхі сялянства,—далучаныя па закону да пануючай нацыі, атрымалі пэўныя прывілеі ў параўнанні з палякамі і яўрэя[illegible] цалкам падтрымаўшы шаві[illegible]стычную русіфікатарскую палітыку царызму, рашуча выступілі супраць беларускага нацыянальнага руху.

Часопіс «Крестьянин» [illegible]ган суполкі праваслаўнага [illegible]ларускага кулацтва «Крестьянин», лідэр — А. Кавалюк) у артыкуле «Расія для рускіх» пісаў, што надышоў час гаварыць аб тым, што Расія павінна належаць рускім і яны павінны ёю кіраваць: «Хочаш жыць з Расіяй, падпарадкоўвайся яе законам і ўладзе, не хочаш—гладкай дарогі, а ўпартасць можна ўціхамірыць сілаю». Пры гэтым, безумоўна, Беларусь лічылася «спрадвечна рускім» краем.

«Белорусское общество» на чале з Л. Саланевічам, якое выдзелілася з «Крестьянина» і ставіла ў якасці галоўнай задачы «развіццё ў беларускай народнасці самасвядомасці на аснове рускай дзяржаўнасці», разам з чарнасоценнымі арганізацыямі стала рупарам вялікадзяржаўнага шавінізму ў Заходнім краі. Яго дзейнасць была накіравана на актывізацыю работы крайне правых у «рускім духу».

«Истинно русские» выданні запоўнілі Беларусь. Цэлы шэраг газет—«Новое время», «Россия», «Голос Москвы», «Окраины России», «Минское слово», «Виленский вестник», «Морская волна», «Белорусская жизнь», часопіс «Крестьянин» і іншыя ахоўвалі прывілеі «рускага насельніцтва», г. зн. буржуазіі і памешчыкаў, і вялі барацьбу з «іншародцамі» і «іншаверцамі» супраць «сепаратысцкіх» імкненняў.

У беларускім і ўкраінскім нацыянальных рухах урадавыя сілы бачылі спробы падрыву «рускай» народнасці, яе культуры і г. д. У 1905 годзе ў Паўночна-Заходнім краі стала выходзіць газета «Kurjer Litewski», заснавальнікам якой быў польскі магнат А. Корвін-Мілеўскі. Газета з'ўлялася вядучым органам партыі «нарадовай дэмакратыі», якая глядзела на заходнія губерні як на правінцыю Вялікай Польшчы. З 1908 года яна стала выходзіць пад назвай «Kurjer Wilenski» і ператварылася ў рупар памешчыцка-клерыкальнага польскага нацыяналізму. Рэдактар газеты Іосіф Глазко з'яўляўся лідэрам віленскіх «нарадовых дэмакратаў». У гэты ж перыяд крайнімі польскімі шавіністамі выдаваліся «Goniec Wilenski» і «Goniec Codzienny». З 1910 года каталіцкае духавенства пачало выдаваць «Gazeta 2 grosze». Гэтыя выданні, як і ўрадавыя і чарнасоценныя рускія, адмаўлялі існаванне беларускай нацыі, мовы і культуры. «Нашу ніву» яны называлі «агентам урада» і заяўлялі, што яе галоўнай мэтай з'яўляецца русіфікацыя беларусаў і цкаванне палякаў.

Барацьба супраць шавіністычнай палітыкі царызму, чарнасоценнага рускага і польскага нацыяналізму ў дадзены перыяд была адным з галоўных напрамкаў у дзейнасці газеты «Наша ніва», якая з'ўлялася трыбунай беларускага нацыянальнага руху.

Увогуле яна выступала з агульнадэмакратычных народніцкіх пазіцый. Характарызуючы новы выбарчы закон па выбарах у III Дзяржаўную думу, газета адзначала яго рэакцыйны характар і з абурэннем пісала: «...памешчыкі маюць на выбарах найбольшую сілу, і пагэтаму яны выбяруць дэпутатам ад сялян і гарадскіх выбаршчыкаў таго, хто ім патрэбны». У шэрагу нумароў «Наша ніва» заклікала сялянскіх выбаршчыкаў выбіраць толькі тых, хто мог бы цвёрда абараняць інтарэсы сялян, каб з іх ліку памешчыкі на губернскіх выбарчых сходах не маглі выбраць сваіх стаўленікаў. Газета ўказвала: «Неабходна пільна сачыць за тым, каб з вызначаных імі (сялянамі.—**М. З.**) прадстаўнікоў і ў валасцях, і ў паветах, і ў губернях не трапіў ніводзін здраднік справы народнай».

Ва ўмовах поўнага панавання чарнасоценных элементаў у палітычным жыцці «Наша ніва» смела называла крайне правых «ворагамі народнай волі». На старонках газеты пасля 3 чэрвеня з'явіліся матэрыялы, якія выкрывалі рэакцыйную дзейнасць мясцовых аддзелаў «Саюза рускага народа», «Рускага ўскраіннага саюза».

«Усе народы Расіі ідуць сваімі нагамі,—пісала газета, — а беларуса яны (г. зн. крайне правыя.—**М. З.**) хочуць весці за руку, як сляпога!» Газета пратэставала супраць увядзення нацыянальных курый на выбарах у Думу, а пазней у земствы, паколькі адпаведныя ўрадавыя акты адносілі праваслаўных беларусаў да ліку рускіх, а католікаў да палякаў. Яна абараняла лозунг нацыянальнага адзінства беларускага народа, незалежна ад веравызнання, даказвала, што беларусы—праваслаўныя і беларусы-католікі—адна нацыя. «Сялян-беларусаў,—пісала «Наша ніва»,—раздзялілі на католікаў і праваслаўных, але нельга забываць, што яны браты, адны ў іх інтарэсы, адзін лёс». У артыкуле «Апекуны і дарослае дзіця» ў нумары за 6 ліпеня 1907 года «Наша ніва» адзначала, што на працягу многіх гадоў абрусіцелі і польскія нацыяналісты імкнуліся прыцягнуць на «свой бок» беларусаў. «Пакуль што беларусы маўчалі,—гаварылася ў адным з нумароў,—але цяпер у іх прабудзілася самасвядомасць, беларускі народ— гэта дзіця, якое прачнулася, якое вырасла і хоча ісці сваім вольным шляхам». Абвяргаючы выдумкі рэакцыйнага польскага друку аб тым, што «Наша ніва» ўводзіць у беларускую мову рускія словы для абрусення беларусаў, газета адзначала, што «Gazeta Codzienna» «нацкоўвае палякаў на беларусаў, ліцвінаў, яўрэяў і г. д. ...сышла на той шлях, па якім ідуць Кавалюкі і Саланевічы—робяць фальшывыя даносы на газету, каб урад яе забараніў».

Выступаючы супраць польскіх нацыяналістаў у артыкуле «Нячыстая палітыка», газета пісала: «Хто даў права палякам апалячваць беларусаў... Такога права няма. Мы не безгалосыя жывёліны, а жывы народ, і за нас ніхто, акрамя нас саміх, гаварыць не можа».

Падкрэсліваючы адзінства крайніх рэакцыйных сіл у барацьбе з беларускім нацыянальна-вызваленчым рухам, «Наша ніва» пісала, што польскія і рускія нацыяналісты «...заключылі саюз, каб ваяваць з усімі, хто гаворыць на іншай мове. Без слоў, без лішніх размоў узяліся яны за агульную «работу» супраць беларускага народа. Аб гэтым павінны ведаць і памятаць усе беларусы».

Неабходна адзначыць, што «Наша ніва» не ставіла знака роўнасці паміж крайне правымі, з аднаго боку, і рускім і польскім народамі, з другога. Газета пісала: «Мы верым, што сярод рускага і польскага народаў... мы знойдзем не ворагаў, а братоў». «Наша ніва» знаёміла чытачоў не толькі з творамі беларускіх, а таксама і прагрэсіўных рускіх, украінскіх, польскіх, літоўскіх і заходнееўрапейскіх пісьменнікаў (М. Гогаля, Л. Талстога, А. Чэхава, І. Тургенева, М. Горкага, У. Караленкі, А. Купрына, Э. Ажэшкі, В. Стэфаніка, І. Белюнаса, А. Уайльда і інш.).

«Наша ні[illegible]вяла шырокую выдавец[illegible] працу: арганізоўвала выданне зборнікаў, альманахаў («Маладая Беларусь», Пецярбург, 1912–1913 гады, тры кнігі), выпускала «Белар[illegible] каляндар» на 1910–19[illegible] гады (Вільня).

Платформай часовага суіснавання ў газеце дэмакратаў і лібералаў былі агульнадэмакратычныя патрабаванні. Барацьба за прызнанне і раўнапраўе беларускай нацыі, мовы мела прагрэсіўны характар.

Такім чынам, з устанаўленнем трэцячэрвеньскай сістэмы ўрадавыя партыі, якія падтрымліваліся царызмам, пачалі крыжовы паход супраць «нярускіх» народнасцей, прапаведуючы лозунг «праваслаўе, самадзяржаўе, народнасць». Праваднікамі шавіністычнага курсу на Беларусі былі партыі ўрадавага лагера, у іх ліку чарнасоценныя «Крестьянин» і «Белорусское общество», правы друк. Вялікадзяржаўны шавінізм сутыкаўся на Беларусі з польскім памешчыцка - клерыкальным нацыяналізмам. Абедзве контррэвалюцыйныя сілы не прызнавалі факта існавання беларускай нацыі, яе культуры, беларускага нацыянальнага руху, вялі барацьбу супраць яго трыбуны—газеты «Наша ніва».

Патрабаванні грамадзянскага, нацыянальнага раўнапраўя беларусаў, выступленні супраць велікарускіх шавіністаў і польскіх нацыяналістаў былі галоўным напрамкам у дзейнасці газеты. «Наша ніва» выступала супраць трэцячэрвеньскага выбарчага закону, урадавага варыянта закону аб земствах у заходніх губернях і іншых актаў, якія ўшчамлялі нацыянальныя правы беларускага народа. Дзейнасць газеты адыграла важную ролю ў справе кансалідацыі беларускай нацыі, развіцця яе мовы і культуры.

**М. ЗАБАЎСКІ,**
**кандыдат гістарычных навук.**



**У Дзяржаўным музеі беларускай літаратуры адкрылася выстаўка «Покліч», прысвечаная беларускай літаратуры 20-30-х гадоў. Яна складаецца з чатырох раздзелаў, якія расказваюць у дакументах і фатаграфіях аб літаратурнай атмасферы тых гадоў, развіцці беларускай драматургіі, паэзіі і прозы, літаратурных аб'яднаннях «Маладняк», «Узвышша» і «Белапп». У экспазіцыі многія матэрыялы прадстаўлены ўпершыню — да нядаўняга часу яны знаходзіліся ў спецховах. Гэта расказ аб трагічным лёсе беларускіх пісьменнікаў, бо каля 80 працэнтаў членаў Саюза пісьменнікаў рэспублікі падвергліся рэпрэсіям.**

**Тэматыку выстаўкі арганічна дапаўняе яе незвычайнае афармленне.**

**НА ЗДЫМКАХ: адзін з раздзелаў экспазіцыі расказвае аб лёсе паэта і празаіка Уладзіміра Дубоўкі. Ён падвергся рэпрэсіям і разам з маці і сынам больш 25 гадоў правёў у ссылцы. Мэблю гэтую ён зрабіў сам, знаходзячыся ў ссылцы; асабістыя рэчы, рэдкія фатаграфіі і дакументы прадстаўлены ў раздзеле, прысвечаным Кузьме Чорнаму.**

**Фота Ю. ПАЎЛАВА.**



## БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

Адбыліся дні прыгранічча, прысвечаныя польска-беларускім, польска-ўкраінскім і польска-літоўскім сувязям.

Беларускі дзень быў адзначаны канцэртам у будынку Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку. Дэманстраваліся дзве выставы — творчасці літаб'яднання «Белавежа» і работ рэзчыка па дрэву, народнага мастака з вёскі Канюкі Навумюка. У канцэрце ўдзельнічалі лепшыя беларускія калектывы з Беластока, Бельска-Падляскага, Гайнуўкі, Гродна.

# ГІМН ЖЫЦЦЯ

(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).

вышыня, якая высоўвалася ўверх над папярочнаю перакладзінай». Аб памерах крыжа можна меркаваць са слоў Іаана Златавуснага: «...Гасподзь распяты быў на высокім дрэве, больш высокім, чым крыжы распятых з ім злачынцаў...»

У першыя стагоддзі нашай эры, калі хрысціянскія абшчыны хаваліся ў сутарэннях і катакомбах, пакуты і смерць Хрыста ўвасабляліся алегарычна, у выявах параненага ягняці, побач з якім маляваўся крыж. Потым ягня пачалі маляваць і на самім крыжы. Выява Хрыста ў чалавечым абліччы на крыжы (распяцце) узнікла не раней, як у VII стагоддзі. З II стагоддзя пачынаюць стварацца манаграмы. Так, літара Х у гэты час з'яўлялася сімвалам крыжа. У III стагоддзі з'яўляецца манаграма ў выглядзе накладзеных адна на другую літар І і Х (Ісус Хрыстос). Пазней на гэтую манаграму накладваецца і літара Р, а злева і справа ставяцца альфа і амега. Аднак з другой паловы IV стагоддзя манаграма становіцца больш простай, у выглядзе роўнабаковага грэчаскага крыжа. Адной з фаз, праз якую ў сваім развіцці прайшло маляванне крыжа, з'яўляецца так званае гаміраванне, спалучэнне чатырох літар Г (свастыка). К канцу IV стагоддзя выява крыжа набывае распаўсюджанне ў Рымскай імперыі. З цягам часу ў каталікаў кананічным стаў чатырохканцовы лацінскі крыж, у праваслаўных — грэчаскі шасціканцовы, у стараверцаў—васьміканцовы з ніжняй ускоснай перакладзінай. Крыж Маскоўскага патрыярха мае дзве перакладзіны, папскі—тры.

Упершыню ў рускіх летапісах слова «крыж» упамінаецца ў тэксце дамовы князя Ігара з грэкамі. У Старажытнай Русі адбылося атаясамленне паняцця крыж з іменем Хрыста. Крыжу надаваліся шырока вядомыя з дахрысціянскіх часоў значэнні абярогу. Наладжваліся крыжовыя ходы, крыжыкі насілі на шыі, малявалі крэйдай на бэльках, вушаках, шулах. Старажытныя паганскія валуны, што сталі на скрыжаваннях, хрысціліся (на іх высякалі выяву крыжа), на змену ім ставілі крыжы каменныя і драўляныя, каб прагнаць чарцей, што любілі збірацца ў гэтых месцах. Адным з найбольш старажытных з'яўляецца датуемы XII стагоддзем камень полацкага князя Рагвалода. У Вілейскім раёне, каля Даўгінава, захавалася каменнае паганскае божышча, на тыльным баку якога высечаны чатыры крыжы. Божышча, відаць, ахрысцілі ў тыя часы, калі асвячаліся на Беларусі крыжамі паганскія валуны, якія сталі пазней называцца Барысавымі камянямі. Менавіта адсюль, відаць, бярэ пачатак традыцыя ставіць на магілах камяні ці драўляныя слупкі з выявай крыжа, якія можна яшчэ бачыць на старых могілках у вёсках Сосенка Вілейскага, Агароднікі Слуцкага раёнаў і ў шматлікіх іншых мясцінах. Разам з тым хрысціянская традыцыя выклікала шырокае распаўсюджанне крыжа як надмагільнага помніка (драўляныя, каменныя, кавальскія), як завяршэнне вежаў званіц, капліц, цэркваў і касцёлаў. Сярод іх ёсць сапраўдныя ўзоры мастацтва. Асаблівай прыгажосцю і багаццем сімволікі вылучаліся кавальскія крыжы уніяцкіх цэркваў і капліц. Тлумачылася гэта тым, што ў канонах гэтай плыні, якая меркавалася як веравызнанне шырокіх сацыяльных слаёў і ў першую чаргу сялян і рамеснікаў, дапускалася прысутнасць элементаў народных традыцый, у тым ліку і паганскага паходжання. Магчыма, што рабілася гэта свядома, але верагодна, што традыцыйныя элементы былі прыўнесены іх носьбітамі ў працэсе эвалюцыі атрыбутыкі веравызнання. Ва ўсякім разе ўзоры народнага мастацтва (разьбы, кавальства, ткацтва), гірлянды кветак, зялёныя галіны шырока ўжываліся ў аздабленні як экстэр'ера, так і інтэр'ера. Вось чаму уніяцкія крыжы вылучаюцца незвычайнай узорыстасцю і квяцістасцю малюнка. Шмат якія з іх можна і сёння бачыць, але хочацца прыгадаць крыж са званіцы царквы Святога Спаса ў мястэчку Друя, аблічча якога захаваў здымак 1929 года.

Крыж, нібы распусціўшаяся кветка, вырастае з грэбня страхі на стромкай выкаванай ножцы з пяшчотнымі пялёсткамі. Чатыры аднолькавых памераў канцы (грэчаскі крыж) нібы пранізаны гнуткімі пабегамі. Тры з іх маюць крыжападобнае завяршэнне, упрыгожанае трыма трохпялёсткавымі суквеццямі (сімвал жыцця). У цэнтры крыжа круглы дыск. Гэта сонца. Ад яго сіметрычна разбягаюцца хвалістыя праменні, паміж якімі пяшчотныя пабегі з трохпялёсткавымі суквеццямі. Унізе — месяц. Гэта сімвал ночы. Сюжэт кампазіцыі ўвасабляе перамогу жыццестваральнай сілы сонечнага святла над цемрай. Спрадвечны гімн жыцця, створаны рукою майстра, несціхана гучыць над роднаю зямлёю.

**Аляксандр ЛАКАТКО,**
**кандыдат гістарычных навук.**

---

**Некалькі соцень мінчанак удзельнічалі ў конкурсе будучых манекеншчыц для работы ў ЗША і Заходняй Еўропе. Ён прайшоў у кінаканцэртнай зале Дома афіцэраў. Рэклама са старонак газет загадзя абвясціла: узрост прэтэндэнтак ад 15 да 20 гадоў, рост ад 172 сантыметраў, абавязкова кароткая спадніца, абутак на высокім абцасе. І... пажадана без макіяжа.**

**Адна з удзельніц конкурсу — стройная, прывабная, з густам апранутая Юля Мядзведзева. Больш дзесяці гадоў займалася яна народнымі і бальнымі танцамі. Цяпер выступае ў вар'етэ ў рэстаране «Каменная кветка». Так што ўменне трымацца на сцэне — гэта ў яе ўжо прафесійнае. Сямнаццацігадовая Святлана Бачарнікава таксама захаплялася бальнымі танцамі і ўвогуле майстрыха на ўсе рукі: скончыла курсы крою і шыцця, вязання.**

**Па рашэнню членаў журы каля паўсотні ўдзельніц дапушчаны да наступнага туру. Затым фотаздымка і гутарка з членамі журы. Канчатковыя вынікі стануць вядомы праз некаторы час.**

**Ніна ЛУЖКОВА.**

**НА ЗДЫМКУ: у час конкурсу.**

**Фота Ю. ЗАХАРАВА.**

# ЗВАРОТ

## ВЫКАНКОМА САЮЗА ЮРЫСТАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ДА СУАЙЧЫННІКАЎ-ЮРЫСТАЎ, БЕЛАРУСКІХ БІЗНЕСМЕНАЎ І ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ, ЯКІЯ ПРАЖЫВАЮЦЬ ЗА МЯЖОЙ

У чэрвені 1990 года на ўстаноўчым з'ездзе створаны Саюз юрыстаў Беларусі — новая прафесійна-грамадская арганізацыя. Выбраны яго кіруючыя органы. Старшынёй Саюза юрыстаў стаў прафесар Сцяпан Сокал. Створаны абласныя і раённыя аддзяленні саюза, яго фірмы: Рэспубліканскі цэнтр сацыяльна-прававой інфармацыі і навучання, «Справядлівасць праз закон» (распрацоўка праектаў нарматыўных актаў), «Рэгістр» (праграміраванае забеспячэнне юрыдычнай дзейнасці); навучальныя ўстановы: Беларускі інстытут правазнаўства, Школа кіравання; выданні «Юрыдычная газета» і «Бюлетэнь нарматыўна-прававой інфармацыі» і інш.

Выканком Саюза юрыстаў лічыць, што рэалізацыя яго задач па стварэнні ў Беларусі прававой дзяржавы, перабудова эканамічных і палітычных адносін выклікае неабходнасць грунтоўна развіваць сувязі з замежнымі юрыстамі, бізнесменамі, прадпрымальнікамі. І асабліва — з выхадцамі з Беларусі.

Такія сувязі могуць базіравацца не толькі на нацыянальных пачуццях, але і на эканамічнай узаемавыгадзе.

Мы звяртаемся да вас з запрашэннем да супрацоўніцтва па наступных напрамках: уступленне нашых замежных калег у Саюз юрыстаў Беларусі (уступны ўзнос 100 долараў ЗША і 100 долараў ЗША за год); дабрачынная матэрыяльная падтрымка Саюза юрыстаў Беларусі ў мэтах павышэння яго здольнасцей і магчымасцей; развіцця дзелавога супрацоўніцтва з замежнымі кампаніямі і прадпрымальнікамі; падпісання пагадненняў і дагавораў аб прававой абароне і забеспячэнні інтарэсаў замежных прадпрымальнікаў на тэрыторыі Беларусі; стажыроўкі юрыдычных кадраў, падрыхтоўкі іх у навучальных установах зацікаўленых краін; абмену заканадаўчымі, нарматыўнымі матэрыяламі; арганізацыі турызму і інш.

Паважаныя спадары! Калі вас зацікавяць нашы прапановы, калі вы імкняцеся да супрацоўніцтва з Бацькаўшчынай, мы будзем вельмі рады вам.

**ВЫКАНКОМ САЮЗА ЮРЫСТАЎ**
**РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.**

**НАШ АДРАС:**

**Рэспубліка Беларусь, г. Мінск, вул. К. Маркса, 24—24. Тэлефон: 27-56-24.**

**Разліковы рахунак № 06170415/002 МФО 805153 у Знешэканомбанку.**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Індэкс 63854. Заказ № 1896.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12